ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 25—26 13 ліпеня 1995 г.

(2427-2428) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## *ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ, СМУТКУ, УСПАМІНАЎ І НАДЗЕЙ*





**3-га ліпеня. На жаль, гэта дата не пазначана ў календары чырвоным колерам, бо Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў не мае статуса дзяржаўнага свята. Таму і адзначаўся ён у нашай дзяржаве куды больш сціпла, чым сёлетні Дзень Перамогі. 51-ю гадавіну вызвалення святкавала ў асноўным сталіца. 1-га і 2-га ліпеня Мінск праводзіў вялікую культурную імпрэзу, якая называлася "Я люблю свой горад". Выступалі вядомыя ў краіне ансамблі і фальклорныя калектывы -- Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, ансамблі "Сябры", "Вяселле", "Купалінка", "Весялушкі", "Дударыкі".**

**А 3-га ліпеня адбылося ўскладанне вянкоў ад імя Прэзідэнта, урада, Міністэрства абароны Беларусі, ветэранаў, прадстаўнікоў грамадскасці і духавенства на плошчы Перамогі.**

**Многа было ў гэтыя дні слёз і ўспамінаў тых, хто перажыў вайну, многа скаргаў на цяжкае жыццё і надзеі на тое, што яно ўсё ж папраўіцца.**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты свята "Я люблю свой горад".**

**ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ**

## ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

Сёння па-рознаму ацэньваюць падзеі Вялікай Айчыннай ваны, яе вынікі. Не ставячы сваёй мэтай пералічыць, а тым больш прааналізаваць розныя пункты гледжання на праблемы вайны, лічу неабходным асвятліць пытанне, якое мае важнае значэнне для больш глыбокага даследавання гісторыі барацьбы беларускага народа з акупацыйным рэжымам. У Беларусі, як і ў іншых краінах, фашысты ажыццяўлялі распрацаваную імі праграму асваення акупіраваных тэрыторый, састаўной часткай якой было масавае знішчэнне людзей. Гэта даказана і не падлягае сумненню.

Да вайны на тэрыторыі БССР пражывала каля 10,5 мільёна чалавек. З пачаткам яе каля 500 тысяч было мабілізавана ў Чырвоную Армію, больш 1 мільёна эвакуіравана. Генеральным планам гітлераўцаў "Ост" ("Усход") прадугледжвалася, што ад агульнай колькасці насельніцтва павінна было застацца не больш 25 працэнтаў -- для выкарыстання на самых нізкакваліфікаваных работах. Некаторыя народы, напрыклад, яўрэі, падлягалі поўнаму знішчэнню. У Беларусі планавалася стварыць "цэнтр для сацыяльна небяспечных элементаў", своеасаблівы "фашысцкі запаведнік" для насельніцтва з некаторых іншых краін Еўропы.

Асноўным сродкам "ачышчэння" захопленых зямель з'яўляліся канцэнтрацыйныя лагеры. У гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі было створана 260 канцлагераў і іх адздяленняў. З іх 110 лагераў для грамадзянскага насельніцтва, у тым ліку 70 гета, і 150 лагераў для ваеннапалонных. У час акупацыі захопнікі знішчылі ў Беларусі больш за 2,2 мільёна савецкіх людзей (па іншых звестках, каля 3 мільёнаў), у тым ліку больш за 1,4 мільёна мірных жыхароў, вывезлі на катаржныя работы каля 380 тысяч чалавек.

Сёння ўсё часцей і часцей даводзіцца чуць версію пра тое, што калі б не было актыўных дзеянняў з боку партызан і падпольшчыкаў, то нямецкія захопнікі не сталі б знішчаць мірнае насельніцтва і нібыта да пачатку вайны Германія ўвогуле не планавала праводзіць палітыку генацыду на акупіраваных тэрыторыях. Паспрабуем адказаць на гэтае пытанне з пункту гледжання гістарычнай праўды...

Ніколі яшчэ гісторыя войнаў не ведала столькі грубых парушэнняў законаў і звычаяў вайны, колькі іх здзейсніў нацызм, што ўзвёў ваенныя злачынствы ў ранг афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі, якая ўзняла тэрарыстычныя дзеянні да ўзроўню норм абыходжання з ваеннапалоннымі і грамадзянскім насельніцтвам часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Гэтыя дзеянні вермахта не былі "выпадковымі", не "выклікаліся ваеннай неабходнасцю", злачынствы нацыстаў былі вынікам мэтанакіраванай палітыкі гітлераўскага фашызму, які яшчэ задоўга да нападу на СССР ва ўсіх дэталях распрацаваў планы знішчэння савецкіх людзей...

Кіруючыя напрамкі такой палітыкі былі распрацаваны яшчэ ў студзені 1940 года Гімлерам у яго прынцыповым плане і выкладзены ў "Думках аб абыходжанні з чужаземнымі народамі на Усходзе", ухваленых Гітлерам (вядома, з захаваннем строгай тайны). У гэтым сакрэтным дакуменце, што прадугледжваў спачатку захоп Польшчы, указвалася як мэта: змяненне дзяржаўнага ладу ва ўсходнееўрапейскай прасторы, знішчэнне палітычнай самастойнасці дзяржаў і раскол насельніцтва на дробныя народнасці і радавыя абшчыны. Гэтым самым павінна было быць прадухілена самае нязначнае палітычнае адзінадушша. Групы павінны былі жыць у стане пастаяннай варожасці, прычым, пануючая магла б выступаць у якасці спрытнага пасрэдніка і была б у стане выносіць свае рашэнні як узнагароджанне за стараннасць.

Адмоўныя адносіны да славянскіх і ўсходнееўрапескіх народаў былі інспіраваны самім Гітлерам. Аднабакова аналізуючы ход гістарычных падзей, ён разглядаў дзяржаўны лад славян толькі ў абавязковым падпарадкаванні і перавазе германскіх паноў. Грунтуючыся на такіх вывадах, у занятых усходніх абласцях павінна было быць устаноўлена германскае панаванне, што абапіралася б на ваенную магутнасць рэйха. Гітлер абгрунтоўваў гэта нібыта гістарычнай заканамернасцю, згодна з якой заваяваныя народы павінны служыць тым, якія аказаліся больш моцнымі. У сваім палітычным веравызнанні "Майн Кампф" ён неаднаразова выкладае свае погляды па пытанню ўсходняй палітыкі, мэтай якой з'яўляецца набыццё неабходных для немцаў зямель і расшырэнне жыццёвай прасторы на Усход.

Якія Гітлер бачыў перспектывы панавання на Усходзе, становіцца ясна з наступнага яго выказвання, зробленага ў першы год вайны супраць Савецкага Саюза: "Калі хочаш выправіць памылкі мінулага стагоддзя, то трэба праводзіць радыкальную палітыку, папулярную ў германскага народа. Гэтак жа, як нямецкі ордэн крыжаносцаў праводзіў яе не ў лайкавых пальчатках, а з Бібліяй і мячом, нашы мабілізаваныя мужчыны, як перакананыя барацьбіты за нацыянал-сацыялістычныя ідэі, у выпадку неабходнасці грубай сілай павінны адстойваць інтарэсы свайго народа..."

У аснову нямецкіх спосабаў і метадаў вядзення вайны супраць СССР першапачаткова былі пакладзены правілы, прадпісаныя ў "Кіраўніцтве для генеральнага штаба ў вайне" ад 1 жніўня 1939 года. Гэтыя палажэнні дзейнічалі да таго часу, пакуль перад пачаткам вайны супраць Савецкага Саюза карэнным чынам не былі мадыфікаваны ў сувязі з чакаемымі ўмовамі ідэалагічнай вайны.

(Працяг на 3-й стар.).

## МІНСКАЕ МЕТРО

**Мінскае метро павялічыла сваю працягласць больш чым на тры кіламетры. Адлегласць, здавалася б, і невялікая, але спецыялісты падлічылі, што з уводам новых станцый "Маладзёжная" і "Пушкінская" павялічыцца колькасць пасажыраў з 96 да 135--140 мільёнаў чалавек у год.**

**Метро, як вядома, самы экалагічна чысты і самы эканамічны від транспарту (хаця на яго пабудову затрачаны проста астранамічныя сродкі).**

**Адкрыццё новых станцый адбылося напярэдадні Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**



ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДА ЎРНАЎ, ГРАМАДЗЯНЕ*

## ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ — 29 ЛІСТАПАДА

Паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання па акругах, дзе дэпутаты яшчэ не абраны, папярэдне мяркуецца назначыць на 29 лістапада. Пастанова Цэнтрвыбаркома аб паўторных парламенцкіх выбарах, згодна з Законам "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" і пастановай парламента ад 14 чэрвеня "Аб правядзенні паўторных выбараў", будзе прынята пазней.

Цэнтрвыбарком рэкамендаваў тэрытарыяльным выбарчым камісіям прызначыць дзень паўторных выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў на 29 лістапада -- дзень паўторных парламенцкіх выбараў.

*ЗВАРОТ ПАСЛА ЗША*

## "МЫ СТАІМ ПОБАЧ З ВАМІ"

Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь Кенет Яловіц выступіў са зваротам да беларускай грамадскасці з нагоды святкавання Дня незалежнасці ЗША.

У сваім звароце спадар Яловіц адзначыў, што незалежная Беларусь зусім нядаўна ўступіла на доўгі і цяжкі шлях пабудовы дэмакратычнага грамадства і рыначнай эканомікі. Некалькі папярэдніх гадоў не былі лёгкімі, і многія перашкоды наперадзе. "Мы разумеем цяжкасці, якія вы цяпер перажываеце. Але гісторыя вашай краіны багатая на прыклады стойкасці ў цяжкія часы, і ўсім добра вядома ваша прыхільнасць да справы пабудовы лепшага жыцця для вашага народа", -- адзначае пасол.

Спадар Яловіц напомніў, што 50 гадоў назад нашы бацькі і дзяды адзначалі заканчэнне другой сусветнай вайны, і ў гэтай перамозе народ Беларусі адыграў асобую ролю. І як саюзнікі і сябры ў той цяжкі час амерыканцы заўсёды будуць помніць, што прынеслі ў ахвяру беларусы. "Гэтак жа, як 50 гадоў назад, стаялі побач нашы народы ў імя ўсяго чалавецтва, мы стаім побач з вамі цяпер, каб падтрымаць незалежнасць і суверэнітэт Беларусі", -- гаворыць у сваім звароце пасол.

*ПРАЗ МЯЖУ*

## НОВЫЯ ПРАВІЛЫ ЎЕЗДУ

Новыя правілы ўезду ў Літву ўступілі ў сілу з 1 ліпеня 1995 года. З гэтага моманту ўводзяцца абмежаванні і на ўвоз у рэспубліку некаторых тавараў.

Калі да цяперашняга часу пасажыр меў права ўвезці ў Літву любых тавараў для ўласных патрэб на суму 1 000 літаў (250 долараў ЗША), то з 1 ліпеня грамадзяне іншых краін могуць узяць з сабой прадуктаў харчавання на суму не больш як 200 літаў. Значна скарочана колькасць цыгарэт і спіртнога, якія можна правезці.

Акрамя таго, неабходна будзе дэкларыраваць увозімыя ў Літву грошы ў любой валюце па афіцыйнаму курсу, якія перавышаюць 40 тысяч літаў. Устанаўліваецца і новы парадак увозу ў гэтую краіну легкавых аўтамабіляў.

*УСТУПАЕМ У РЫНАК*




Калгас-аграфірма "Малеч" ужо другі год займаецца вытворчасцю фірменнага піва "Мальва", "Палёт". Гэтыя янтарныя напіткі прыйшліся даспадобы знатакам піва. Добрая якасць піва і попыт на яго дазволілі гаспадарцы адкрыць свае фірменныя піўныя бары ў Брэсце, Пружанах, Малечы, Броннай гары.

НА ЗДЫМКУ: півавары калгаснага піўзавода Вячаслаў ЦЭБРУК і Сяргей ЖУКОВІЧ прапануюць смачны фірменны напітак.

*БСДГ*

## М. СТАТКЕВІЧ — СТАРШЫНЯ ГРАМАДЫ

Мікалай Статкевіч выбраны новым старшынёй БСДГ замест былога Алега Трусава.

Алег Трусаў лічыць, што пры новым кіраўніцтве партыя можа ўзяць больш левую арыентацыю, і прадказвае ахаладжэнне ў яе адносінах з БНФ. Мікалай Статкевіч пакуль узначальвае таксама Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.

Адным з намеснікаў старшыні БСДГ на трэцяй сесіі з'езда Грамады, якая адбылася ў Мінску ў мінулую суботу, абраны Пётр Краўчанка, былы міністр замежных спраў Беларусі.

*ЧЫРВОНЫ КРЫЖ*

## АПОШНІЯ З МАГІКАН

На мяжы самаліквідацыі знаходзіцца ў Салігорску служба Чырвонага Крыжа.

Дзесяцігоддзямі яна існавала за кошт добраахвотных ахвяраванняў. У яе штаце працавалі чатыры медсястры міласэрнасці, кожная з якіх мела каля паўсотні падапечных. Цяпер іх засталося толькі дзве, ды і тыя, магчыма, хутка пойдуць: няма чым плаціць ім заработную плату.

Адзінокіх і нямоглых Салігорска, падобна, чакае яшчэ больш сумная доля.

*ХАЛЕРА*

## ПЕРШАЯ АТАКА АДЫТА

Паведамленні інфармацыйных агенцтваў прынеслі трывожныя весткі з Украіны: там зноў абвастрылася эпідэміялагічная сітуацыя. Цяпер у суседняй рэспубліцы больш за 160 чалавек захварэлі на халеру. І колькасць інфіцыраваных павялічваецца кожныя суткі.

Не абышла бокам страшная хвароба і Беларусь. Як паведаміў галоўны эпідэміёлаг рэспублікі Анатоль Кажамякін, цяпер становішча нармалізавалася.

Дзякуючы намаганням урачоў Мінскай гарадской інфекцыйнай бальніцы жыццю шпіталізаванага каля дзесяці дзён таму грамадзяніна Індыі нічога не пагражае, ляячэнне практычна закончана. Днямі былі выпісаны з бальніцы і людзі, якія кантактавалі з хворым. Халерай, на шчасце, яны не заразіліся.

Тым не менш, супакойвацца рана: сітуацыя можа змяніцца ў любы момант. 4 ліпеня адбылося пасяджэнне калегіі Міністэрства аховы здароўя рэспублікі, на якім яшчэ раз былі ўзняты пытанні прафілактыкі халеры. Акрамя гэтага, праводзяцца пастаянныя лабараторныя даследаванні проб з вадаёмаў і рэк рэспублікі.

*ТРАНСЕЎРОПА*

## ПА ШЛЯХУ ПРОДКАЎ

Па Беларусі праходзіць адзін з этапаў міжнароднай экспедыцыі "Трансеўропа -- Нява -- Вікінг", арганізаванай пад эгідай ЮНЕСКА.

На судне, пабудаваным па ўзору старажытнарускай лодкі X--XI стагоддзяў, удзельнікі гэтай экспедыцыі (а сярод іх ёсць адзін прадстаўнік нашай краіны) па старажытным шляху "з варагаў у грэкі" праз Оршу праплывуць больш як тры тысячы кіламетраў, робячы прыпынкі ў Кіеве, Адэсе, Стамбуле. Канцавы пункт падарожжа -- легендарная Александрыя.

*КОНКУРСЫ*

## ЗДЗІЎЛЯЕМ СВЕТ

Падведзены вынікі III Рэспубліканскага агляду-конкурсу лепшых архітэктурных твораў года.

32 аўтарскія калектывы прадставілі 58 работ у 18 намінацыях. 17 праектаў і ўжо пабудаваных аб'ектаў былі адзначаны дыпломамі Саюза архітэктараў Беларусі. Гран-пры, дыплом, медаль і грашовую прэмію ў памеры 150 долараў ЗША за рэалізаваны праект атрымаў нямецка-беларускі творчы саюз архітэктараў Дэтліфа Піршке і Алега Вараб'ёва. Па іх праекту быў пабудаваны ў гэтым годзе мінскі Міжнародны адукацыйны цэнтр. І, нарэшце, лепшым, на думку журы, архітэктурным праектам года названы "Тэрмінал міжнароднага порта ў Іакагаме" творчай майстэрні брэсцкага архітэктара Аляксея Андраюка.

*ПРЫЗНАННЕ*

## ПОСПЕХ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

Адразу дзве ўзнагароды Савета Міжнароднай канфедэрацыі саюзаў мастакоў прывёз у Мінск прэзідэнт гэтай арганізацыі Валянцін Сідараў. Па выніках выстаўкі, якая праходзіла ў Маскве ў Цэнтральным Доме мастакоў напярэдадні юбілею Вялікай Перамогі, гран-пры прысуджана народнаму мастаку СССР, акадэміку Міхаілу Савіцкаму, а другая прэмія -- народнаму мастаку Беларусі Віктару Грамыку. 5 ліпеня ім былі ўручаны памятныя ордэны і грашовыя прэміі.

*СУСТРЭЧА СЯБРОЎ*



Трыццаць шостае па ліку штогадовае свята адбылося на Кургане Дружбы, што на мяжы Латвіі, Беларусі і Расіі.

Ветэраны вайны, жыхары Себежскага, Лудзенскага і Верхнядзвінскага раёнаў зноў сустрэліся разам, паказалі свае майстэрства ў вялікай канцэртнай праграме. Для ўдзельнікаў свята былі арганізаваны гандлёвыя рады.

НА ЗДЫМКУ: праз 25 гадоў сустрэліся на Кургане Дружбы баявыя сябры Віліс САМСОН і Дзмітрый ХАЛТУРЫН.

*СПАДЧЫНА*

## БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Асобнай брашурай выйшаў з друку анатаваны план-каталог шматтомнага выдання беларускай літаратуры і літаратуры пра Беларусь ад старажытнасці да нашых дзён. Гэта унікальнае выданне распачынае Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор".

У каталогу пазначана 180 пазіцый. Ужо з аднаго пераліку імёнаў і назваў кніг відаць, якую мы маем непаўторную і багатую літаратурную спадчыну. Брашура дае добрае ўяўленне пра асноўныя вехі 1000-гадовага развіцця нашай літаратуры, а таксама пра здабыткі ў галіне гісторыі, этнаграфіі і фалькларыстыкі.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

БЕЛАРУСЫ старэюць. Упершыню ўзровень смяротнасці перавысіў узровень нараджальнасці ў 1993 годзе. Сёння на 100 працуючых у Беларусі прыпадае 120 пенсіянераў, а да 2010 года іх будзе 150.

"ЗАВОДУ -- ПРАЦУ!", "ДЗЕЦЯМ ПАТРЭБЕН ХЛЕБ!" З такімі лозунгамі прыйшлі да будынка Віцебскага абласнога выканкама прадстаўнікі арэнднага прадпрыемства "ВІЗАС" -- аднаго з буйнейшых машынабудаўнічых прадпрыемстваў Беларусі. На віцебскім заводзе, як на большасці дзяржаўных прадпрыемстваў у іншых гарадах рэспублікі, ужо трэці месяц не выплачваюць зарплату: няма збыту прадукцыі.

НЕ РАСЦЕ вытворчасць мяса ў гаспадарках Беларусі. Міністэрства статыстыкі сведчыць, што за студзень--май 1995 года вытворчасць мяса скарацілася на 28 працэнтаў у Гродзенскай вобласці, на 19 -- у Брэсцкай, на 18 -- у Віцебскай, на 13 -- у Мінскай, у Гомельскай і Магілёўскай -- на 12 працэнтаў.

У ЗАВОДСКІМ раёне Мінска адкрыта сталовая для бедных. Штодзённа 100 чалавек, якія не зводзяць канцы з канцамі, могуць тут атрымаць бясплатны абед. Добрую справу зрабіў Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" сумесна з касцёлам святых Сымона і Алены.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ банк выпускае ў свет першыя залатыя манеты, прысвечаныя 50-годдзю Перамогі, якое нядаўна адзначалася. Юбілейная манета мае вартасць 1 000 рублёў, выраблена з золата 999,9 пробы. Усе надпісы на ёй на беларускай мове.

ПРЫЧЫНАЙ экстраннай нарады прадстаўнікоў пагранічных і мытных службаў Беларусі і Польшчы паслужылі чэргі на прапускных пунктах беларуска-польскай граніцы. Даўжыня чэргаў, у якіх стаяць аўтамабілі, дасягнула неверагодных памераў -- ад 4 да 5 кіламетраў.

У ВІЦЕБСКУ прайшлі "Міжнародныя шагалаўскія дні". У навуковых чытаннях пра жыццё і творчасць вядомага на ўвесь свет мастака прынялі ўдзел мастацтвазнаўцы з розных краін. Былі адкрыты выстаўкі графікі Шагала, карцін мастакоў Віцебска і яўрэйскіх мастакоў Масквы.

ЛІДЭР БНФ Зянон Пазьняк падаў у суд на скандальна вядомага рэжысёра фільма "Ненависть: дети лжи" Юрыя Азаронка. Як вядома, у гэтым тэндэнцыйна скляпаным фільме З. Пазьняк абвінавачваецца ў нацыянал-фашызме. Адбылося першае пасяджэнне суда, працэс перапынены, новае пасяджэнне прызначана на 5 верасня.

ПАСЛЯ ўвядзення з 1 ліпеня новых, больш высокіх тарыфаў на ўвозімыя ў Беларусь з-за мяжы аўтамабілі рэзка зменшылася іх колькасць. Цяпер на Брэсцкай мытні замест 200 аўтамабіляў за дзень афармляецца ўвоз у краіну толькі 8 машын замежнай вытворчасці.

**Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Паўла Сухога. У Гомелі прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады будучага выдатнага канструктара. З 1956 года Павел Восіпавіч быў генеральным канструктарам. Гэта пад яго кіраўніцтвам створаны рэактыўныя самалёты СУ-9 і СУ-15, распрацаваны звышгукавыя знішчальнікі са стралападобным і трохвугольным крылом. На самалётах Т-431 і Т-405 у 1959-1962 гадах былі ўстаноўлены сусветныя рэкорды вышыні і скорасці палёту. Апошняй пры яго жыцці распрацоўкай была мадэль звышгукавога бамбардзіроўшчыка СУ-100, які ў 1972 годзе, калі праходзілі выпрабаванні, развіваў скорасць да 3 000 кіламетраў у гадзіну і пры гэтым яшчэ выконваў баявую задачу.**

**Імем П. Сухога названа вуліца ў Гомелі, а ў цэнтры, дзе ён жыў, устаноўлены бюст.**

**У Гомелі шырока адзначаецца юбілей славутага авіяканструктара, нашага земляка. Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русаковіч 30 чэрвеня ў Гомельскім політэхнічным інстытуце прыняў удзел ва ўрачыстым сходзе і адкрыў навуковыя чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага авіяканструктара, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Паўла Восіпавіча Сухога.**

**Уладзімір Русакевіч азнаёміў прысутных з пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб прысваенні імя выдатнага вучонага інстытуту, які цяпер будзе называцца Гомельскім політэхнічным інстытутам імя П. Сухога.**





**НА ЗДЫМКАХ: Павел СУХІ; мадэль звышгукавога бамбардзіроўшчыка СУ-100.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Таму што Савецкі Саюз не належаў да ліку дзяржаў, што падпісалі Гаагскую канвенцыю аб правілах вядзення сухапутнай вайны паміж дзяржавамі -- у свой час падпісаныя царскім урадам дагаворныя абавязацельствы, як і шэраг іншых абавязацельстваў, не былі прызнаны Савецкім Саюзам, -- германскае кіраўніцтва не чакала, што ён будзе прытрымлівацца міжнародных абавязацельстваў і агульнапрынятых правілаў вядзення вайны.

Пасля выказаных Гітлерам 30 сакавіка 1941 года патрабаванняў памянёныя прадпісанні былі зменены і выкладзены галоўным камандаваннем вермахта ў асобай дырэктыве, якою рэгуляваліся паводзіны войск на занятай тэрыторыі.

У распрацоўцы і ажыццяўленні планаў, звязаных з палітыкай знішчэння народаў, самы непасрэдны ўдзел прымалі вярхоўнае галоўнакамандаванне вермахта, міністэрства па справах акупіраваных тэрыторый на Усходзе і іншыя ўстановы гітлераўцаў. Распрацаваная яшчэ ў сакавіку 1941 года штабам вярхоўнага галоўнакамандавання германскай арміі спецыяльная Інструкцыя аб асобых абласцях да дырэктывы N 21 (план "Барбароса") прадугледжвала расчляненне захопленай тэрыторыі СССР на так званыя "рэйхскамісарыяты", гэта значыць была накіравана на ліквідацыю Савецкай дзяржавы як палітычнага цэлага. Гэтым дакументам намячаліся практычныя мерапрыемствы па ўстанаўленню жорсткага акупацыйнага рэжыму на тэрыторыях СССР, якія падлягалі захопу.

У адпаведнасці з інструкцыяй камандуючыя фашысцкімі войскамі надзяляліся на акупіраванай савецкай тэрыторыі неабмежаванымі правамі "праводзіць у жыццё ўсе мерапрыемствы, неабходныя для выканання задач і для забеспячэння бяспекі арміі", гэта значыць маглі ўчыняць любыя зверствы ў адносінах да мясцовага насельніцтва.

Фашысцкае камандаванне не толькі апраўдвала масавы тэрор, грабяжы, насілле і забойствы, але і заклікала сваіх салдат і афіцэраў праяўляць нечалавечую жорсткасць у адносінах да мясцовага насельніцтва. Звярынае аблічча фашызму і нацысцкага генералітэту раскрывае дырэктыва ад 13 мая 1941 года за подпісам фельдмаршала Кейтэля "Аб ваеннай падсуднасці ў раёне "Барбароса" і аб асобых паўнамоцтвах войск". У гэтым дакуменце афіцэрам вермахта прадастаўлялася права расстрэльваць паводле свайго меркавання, без суда і следства, усіх "западозраных асоб". Вярхоўнае галоўнакамандаванне патрабавала праводзіць карныя экспедыцыі, прымяняць "масавыя гвалтоўныя меры", неабмежавана выкарыстоўваць самыя жорсткія метады ўзброенага насілля. Устанаўлівалася злачынная сістэма заложнікаў.

Такая пазіцыя поўнасцю адпавядала поглядам Гітлера, якая таксама была выкладзена на нарадзе з галоўнакамандуючымі 30 сакавіка 1941 года ў якасці дырэктыўных указанняў аб паводзінах у адносінах да ваенных сілаў праціўніка: "...Камуніст перад боем не таварыш і пасля бою не з'ўляецца такім. Размова ідзе аб знішчальнай вайне. Калі мы гэта не так разумеем, то хаця і разаб'ём ворага, але праз 30 гадоў нам зноў будзе процістаяць камуністычны праціўнік".

Сваё нагляднае адлюстраванне гэтая думка знайшла ў загадзе фюрэра пад назвай "Загад аб камісарах" ад 6 чэрвеня 1941 года. Як дадатак да загада "Аб выкананні ваеннай юрысдыкцыі і асобых мерах войск", ён быў накіраваны галоўнакамандуючым сухапутных войск вермахта і паветраных армій. У ім Гітлер патрабаваў расстрэлу палітычных камісараў Чырвонай Арміі як "сапраўдных натхніцеляў супраціўлення" і "зачыншчыкаў варварска-азіяцкіх метадаў барацьбы". У адпаведнасці з гэтым загадам палітычныя камісары разглядаліся не як байцы рэгулярнай арміі і ўжо на полі бою павінны аддзяляцца ад ваеннапалонных савецкіх салдат і неадкладна знішчацца.

Па меры набліжэння фашысцкага ўварвання на тэрыторыю СССР узрастаў прыток загадаў, інструкцый, настаўленняў вярхоўнага галоўнакамандавання ўзброеных сіл і іншых ведамстваў гітлераўскай Германіі аб правядзенні палітыкі вынішчэння мясцовага насельніцтва. Праграмай масавага знішчэння савецкіх людзей з'явіўся і загад вярхоўнага галоўнакамандавання вермахта, выдадзены за подпісам фельдмаршала Кейтэля 16 верасня 1941 года. У ім асоба звярталася ўвага на тое, што неабходна "найбольш жорсткія меры" па барацьбе з партызанамі шырока прымяняць і для знішчэння мірнага насельніцтва. "Пры гэтым, -- гаварылася ў загадзе, -- трэба мець на ўвазе, што чалавечае жыццё ў адпаведных краінах у большасці выпадкаў не мае ніякай цаны..."

Загадзя рыхтавалася і сістэма акупацыйнай улады. Было заснавана на чале з ідэолагам і тэарэтыкам нацызму Розенбергам цэнтральнае палітычнае бюро для распрацоўкі "ўсходніх праблем", на падставе якога пазней утварылася міністэрства па справах акупіраваных абласцей на Усходзе.

Загадзя падбіраліся і рыхтаваліся кадры на найважнейшыя пасады і ў органы акупацыйнай адміністрацыі. 16 студзеня 1941 года Гітлер выдаў спецыяльны ўказ аб стварэнні корпуса кіраўнікоў упраўленняў у будучых акупіраваных усходніх абласцях.

У адпаведнасці з загадзя распрацаванымі планамі ўся захопленая нямецка-фашысцкімі агрэсарамі акупіраваная тэрыторыя Беларусі дзялілася на дзве часткі. Першая -- вобласць армейскага тылу, якая ўключала ў сябе зоны ваенных дзеянняў сухапутных войск і тылавыя раёны асобных армій і груп армій. Тут уся паўната ваеннай і адміністрацыйнай улады знаходзілася ў руках камандуючых войскамі вермахта.

Другая -- уся астатняя акупіраваная ворагам савецкая тэрыторыя. Тут засноўвалася грамадзянская акупацыйная адміністрацыя. У адпаведнасці з загадам Гітлера ад 17 ліпеня 1941 года кіраўніцтва гэтымі абласцямі пасля "спынення ваенных дзеянняў пераходзіць ад ваеннай адміністрацыі да грамадзянскіх уладаў". Акупіраваныя савецкія землі, якія былі падначалены грамадзянскім уладам, дзяліліся на рэйхскамісарыяты, генеральныя акругі, акругі і раёны.

Першым крокам пасля акупацыі Беларусі фашысцкія захопнікі ўвялі сваё адміністрацыйнае дзяленне, у адпаведнасці з якім тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай, большай часткі Гомельскай, усходнія раёны Мінскай і некаторыя Палескай абласцей адносіліся да так званай "вобласці армейскага тылу", што лічылася вобласцю ваеннай зоны і армейскага тылу групы армій "Цэнтр".

Паўднёвыя раёны Гомельскай і Брэсцкай, амаль поўнасцю Палеская, большасць раёнаў Пінскай абласцей разам з адміністрацыйнымі цэнтрамі Мазыр, Пінск, Брэст далучаліся да так званага рэйхскамісарыята "Украіна". Былую Беластоцкую і паўночную частку Брэсцкай абласцей фашысцкія захопнікі ўключылі ў склад Усходняй Прусіі. Паўночна-заходнія раёны Вілейскай вобласці яны аднеслі да генеральнай акругі "Літва".

Такім чынам Беларусь у выніку расчлянення зводзілася да тэрыторыі, што складалася з Баранавіцкай, заходніх і паўночна-заходніх раёнаў Мінскай, паўночных Пінскай і некаторых раёнаў Вілейскай, Брэсцкай і Палескай абласцей. Гітлераўцы яе назвалі генеральнай акругай "Беларусь".

Уся яе тэрыторыя падзялялася на 10 акруг (гебітаў): Баранавіцкую, Барысаўскую, Вілейскую, Ганцавіцкую, Глыбоцкую, Лідскую, Мінскую, Навагрудскую, Слонімскую і Слуцкую. У кожную з іх уваходзіла некалькі раёнаў.

У гарадах ствараліся гарадскія ўправы, што служылі своеасаблівымі дапаможнымі органамі гарадскіх камісарыятаў. Аддзелы ўпраў дубліравалі назвы аддзелаў гарадскога камісарыята. Гарадскі камісар з'яўляўся шэфам управы, а кожны з начальнікаў аддзелаў камісарыята -- шэфам адпаведнага аддзела ўправы.

У раённых цэнтрах уся ўлада належала зондэрфюрэру ці нямецкаму шэфу раёна, які разам са сваім апаратам непасрэдна падпарадкоўваўся акруговаму камісарыяту. У сельскай мясцовасці акупанты стварылі валасныя ўправы. На чале валаснай управы ставіўся бургамістр, ці, як ён іншы раз называўся, старшына. У вёсках (абшчынах) прадстаўнікамі акупацыйнай улады з'яўляліся старасты ці старшыны абшчын.

На тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь", паралельна з нямецкай грамадзянскай адміністрацыяй, дзейнічаў вялікі ваенны і паліцэйскі апарат. Усе акупацыйныя войскі, што знаходзіліся на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь", падпарадкоўваліся камандуючаму войскамі вермахта, які з'яўляўся галоўным камендантам палявой камендатуры N 392. Яна размяшчалася ў Мінску і служыла вышэйшым ваенна-адміністрацыйным органам кіравання на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь". Немалую ролю ва ўстанаўленні тэрарыстычнага рэжыму на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі адыгрывалі тэрытарыяльныя органы ваеннай адміністрацыі, палявыя і мясцовыя камендатуры. Палявым камендатурам падпарадкоўваліся мясцовыя камендатуры, якія ствараліся ў гарадах, раённых цэнтрах, на буйных вузлах чыгуначных і шасейных камунікацый, у месцах дыслакацыі ваенных гарнізонаў і г.д.

На палявыя і мясцовыя камендатуры ўскладаліся: барацьба з партызанскім рухам, распрацоўка і арганізацыя карных экспедыцый супраць партызан і насельніцтва, ахова камунікацый, ваенных аб'ектаў і матэрыялаў, вядзенне разведвальнай і контрразведвальнай дзейнасці,канфіскацыя сельскагаспадарчай прадукцыі і г.д. Тэрытарыяльныя органы ваеннай адміністрацыі дзейнічалі ў цесным кантакце з прыдадзенымі ім воінскімі падраздзяленнямі, СС і паліцыі, атрадамі палявой жандармерыі, тайнай паліцыі і іншымі фарміраваннямі.

Паралельна з ваеннымі ў сістэме грамадзянскіх акупацыйных уладаў дзейнічалі (якія фактычна ні ад кога не залежалі) шматлікія органы СС з вялікім паліцэйскім апаратам.

У распараджэнні начальніка СС і паліцыі Беларусі знаходзілася так званая ахоўная паліцыя, жандармерыя, паліцыя бяспекі і СД. У дапамогу жандармерыі на месцах ствараліся атрады паліцыі. У сельскай мясцовасці паліцэйскія размяркоўваліся па гарнізонах і апорных пунктах. Іх узначальвалі нямецкія жандары. У гарадах дзейнічалі паліцэйскія ўчасткі. У Мінску, напрыклад, іх было 5.

У сістэме ваенна-паліцэйскай і грамадзянскай акупацыйнай адміністрацыі гітлераўцаў асобая роля належала паліцыі бяспекі і службе бяспекі (СД). На 10 красавіка 1943 года супрацоўнікаў упраўлення паліцыі бяспекі і СД у Мінску налічвалася 1 250 чалавек. У распараджэнні паліцыі бяспекі і СД было некалькі машын-душагубак.

На падставе распараджэнняў з "Дырэктывы па асобых абласцях да ўказання N 21" войскі павінны былі прыцягвацца ў якасці дзейснага паслухмянага механізма ваяўнічай палітычнай арганізацыі службы бяспекі СД у сваёй вобласці кіравання. Паліцэйскія часці, што дзейнічалі на тэрыторыі, якая знаходзілася пад кіраваннем вермахта, складаліся з часцей паліцыі парадку, якія за выключэннем дзевяці матарызаваных паліцэйскіх батальёнаў, што знаходзіліся ў тактычным падпарадкаванні камандзіраў ахоўных дывізій, атрымлівалі заданні і загады ад рэйхсфюрэра СС.

На тэрыторыі армейскага тылу структура фашысцкіх карных органаў будавалася па наступнай схеме. Органы паліцыі бяспекі і СД тут прадстаўлялі спецыяльныя аператыўныя атрады ваеннага тыпу, вядомыя пад назвай айнзацгруп (аператыўная група).

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**(Працяг будзе).**

ДАЎНО ЎЖО адшумелі ва ўсіх кутках свету з нагоды 500-гадовага юбілею з часу нараджэння Францішка Скарыны прадстаўнічыя сходы, святочныя вечарыны і навуковыя канферэнцыі, адгучалі прысвечаныя вялікаму беларускаму асветніку ўрачыстыя прамовы і даклады, закрыліся юбілейныя выставы. А Скарыніяна прадаўжаецца... Бо, мабыць, ніколі не знікне цікавасць да незвычайнай асобы і невычэрпнай духоўнай спадчыны нашага Першадрукара.

Нядаўна з'явілася яшчэ адна і карэктны крок на шляху стварэння новай (у параўнанні з кірыла-мяфодзіеўскай эпохай) агульнаславянскай кніжнай (літаратурнай) мовы".

Знакаміты вучоны вельмі высока ацэньвае культурна-гістарычнае значэнне шматграннай дзейнасці славутага беларускага асветніка, называе Скарыну сімвалам беларускага народа, яго нацыянальным героем, яркім выразнікам народнага духу, адным са стваральнікаў культуры ўсходніх славян.

У такім жа шырокім, агульнаеўрапейскім кантэксце га-

## ПРА КНІЖКУ "ВЕЛІКОЮ ЛАСКОЮ", ВЫДАДЗЕНУЮ Ў МАСКВЕ

# СКАРЫНІЯНА ПРАДАЎЖАЕЦЦА...

кніжка скарынаўскай серыі -- "Великою ласкою". Выдадзена яна летась у Маскве пад грыфам Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук і Маскоўскага аб'яднання беларусаў "Бацькаўшчына" і змяшчае матэрыялы юбілейнай навуковай канферэнцыі, якая адбылася яшчэ ў канцы 1990 года ў сталіцы Расіі. Невялікі памерам гэты зборнік, усяго 96 старонак, але цікавы і змястоўны. Шмат знаёмых імёнаў, слынных скарыназнаўцаў выступае на яго старонках.

Асабліва ж радуе, што побач са сталымі навукоўцамі -- гісторыкам Анатолем Грыцкевічам, філосафам Уладзімірам Конанам, літаратарамі Адамам Мальдзісам і Аляксеем Каўкам, моваазнаўцамі Аляксандрам Булыкам і Львом Шакуном, іншымі вопытнымі даследчыкамі -- у гэтай кнізе сустракаем і прадстаўнікоў маладога пакалення філолагаў, якія даволі ўпэўнена і падрыхтавана далучаюцца да даследавання скарынаўскай спадчыны.

Як высокі запеў да шматстайнай і сур'ёзнай гаворкі пра Скарыну ўспрымаецца ўступнае слова вядомага расійскага славіста, акадэміка М.Талстога "Асветнік зямлі Беларускай", якім адкрываецца зборнік. Яно вылучаецца шырынёю погляду на асобу беларускага гуманіста, дзейнасць якога ахарактарызавана сціпла, ёміста і дакладна. Даследчык бачыць у Скарыне адданага сваім нацыянальным традыцыям чалавека Рэнесанса, у якім нацыянальная самасвядомасць арганічна спалучалася з агульнаславянскай і дзейнасць якога мела надканфесійны характар. Надзвычай цікавай, хоць і не бясспрэчнай, здаецца нам думка М.Талстога, што "славянская мова" скарынаўскіх выданняў -- асцярожны

ворку пра Скарыну працягвае ў зборніку Адам Мальдзіс. Ён асабліва падкрэслівае плённую ролю вялікага гуманіста ва ўмацаванні нацыянальна-канфесійнага, духоўнага адзінства беларускага народа, у пашырэнні яго культурных сувязей з іншымі краінамі, у культурным збліжэнні Усходняй і Заходняй Еўропы. "Францыск Скарына, -- справядліва зазначае даследчык, -- быў адным з самых першых і руплівых будаўнікоў беларускага дома", заснаванага "на фундаменце высокай духоўнасці, маральнасці, культуры... нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці", дома з шырока адчыненымі дзвярыма для рознабаковых сувязяў ва ўсе напрамкі свету.

Важнейшыя аспекты светапогляду Скарыны, сутнасць яго гуманістычнага ідэалу сцісла раскрывае ў сваім выступленні У.Конан. Даследчык акцэнтуе ўвагу на сацыяльна-этычным змесце і дэмакратычнай скіраванасці асветніцкай праграмы беларускага гуманіста, арганічным сінтэзе агульнахрысціянскіх, рэнесансавых і народнаславянскіх традыцый у поглядах Скарыны, ідэалам якога былі духоўна дасканалы чалавек і прававое грамадства. Вучоны адзначае таксама шматграннасць таленту беларускага першадрукара, які ярка выявіўся ў яго публіцыстыцы і паэзіі, перакладчыцкім майстэрстве і кнігавыдавецкай справе, тонкім мастацкім гусце, у яго ўменні гарманічна спалучаць дабро і хараство, этыку і эстэтыку.

Спробы ўдакладніць агульнапрыняты погляд на Скарыну, па-іншаму расставіць некаторыя важныя акцэнты робяць у сваіх артыкулах данага зборніка А.Каўка і маладая даследчыца Л.Ляўшун.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



Вуліца М. Багдановіча ў Мінску.

Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.

## МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ Ў ПЕРЫЯД РЭПРЭСІЙ

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ

Гэты пералік можна працягваць вельмі доўга... На пераломе 20--30-х гадоў у Мінскай епархіі, як і ўсюды, пацярпела большая частка духавенства і вялікае мноства міран.

Не ўсе свяшчэннікі трапілі ў лагеры ці былі адпраўлены ў ссылку, некаторыя з іх, хто вызначаўся асаблівай пастырскай смеласцю, былі прыгавораны да "вышэйшай меры пакарання".

Так былі расстраляны іерэй Іаан Гарачка (Лошніца Барысаўскага раёна), свяшчэннік Аркадзь Акаловіч (Вітаўка Койданаўскага раёна), іерэй Валерыян Навіцкі (Целядовічы Капыльскага раёна), іерэй Уладзімір Хрышчановіч (Языль Старадарожскага раёна) і іншыя...

Асаблівай увагі заслугоўвае лёс свяшчэнніка Уладзіміра Хрышчановіча. Ён быў арыштаваны за частыя богаслужэнні ў царкве с. Языль, якія суправаджаліся шматразовымі заклікамі да веруючых не пакідаць свайго храма, верыць Богу і маліцца Богу.

Звяртаючыся да жонкі і дзяцей з турмы, а. Уладзімір пісаў: "Спяшаюся павіншаваць вас з Новым годам, з новым шчасцем. Дай Бог, перанесці вам увесь цяжар і смутак ад злых людзей і падкопы д'ябла, які паўстаў знішчыць нас. Усявышні не дапусціць гэтага і дапаможа нам перанесці ўвесь цяжар і смутак крыжа. Прашу вас не забываць Бога, ад Якога залежыць усё".

Разам з а. Уладзімірам былі расстраляны псаломшчык языльскай царквы Васілій Капачэня, стараста Якаў Палаўчэня, член царкоўнага савета Сцяпан Капачэня; заключаны ў канцлагер актыўныя прыхаджане царквы Сямён Жук, Яўсей Палаўчэня, Лявонцій Палаўчэня, Уладзімір Насовіч, Іосіф Корзун, Вера Сасіноўская.

Такім чынам, прыход у Язылі быў знішчаны ў самым сваім ядры. Падобная практыка неўзабаве стала паўсюднай.

Пачынаючы з 1929 года, улады падвергл ганенням таксама абнаўленцаў. Апошнія зрабілі сваю справу, унеслі раскол у Царкву, і асаблівай патрэбы ў іх больш не было. 21 лютага 1930 года ў абнаўленцаў адабралі комплекс слуцкага Св. Троіцкага манастыра, а нядаўніх манахаў, што збіліся з правільнага шляху, на чале з самачынным епіскапам Савацікм (Засімовічам) выселілі з займаемых імі памяшканняў.

Пры патуранні ўладаў звычайнай з'явай у жыцці грамадства сталі розныя антыцаркоўныя дэманстрацыі, што груба зневажалі пачуцці вернікаў, насілі яўна правакацыйны характар і закранал як праваслаўных, так і абнаўленцаў.

Вось як апісвае адну з падобных акцый Данііл (Грамавенка): "У 1925 годзе абнаўленцкая абшчына атрымала ў карыстанне Спаса-Праабражэнскі храм г. Мінска (нагадаем: насільна адабраны ў праваслаўных. -- **Аўтар.**). Ён прымыкае да вялікага каменнага корпуса, у якім знаходзіцца інтэрнат Окрана... З вясны 1929 года вучні інтэрната сталі біць вокны ў розных частках храма... Быў выпадак, калі аднойчы вучань, забаўляючыся кавалкам рэйкі, кінуў гэты кавалак проста ў вакно, сарваў раму з петляў і ўдарам адкінуў яе на цэментавую падлогу інтэрната... У сакавіку месяцы 1930 года вучні праламалі на хоры дзірку,.. сталі хадзіць у памяшканне храма, бясчынстваваць, раскідваць дробны інвентар... У час служэнняў, забягаючы ў адчыненыя дзверы, перашкаджалі служыць крыкам і шумам. У гэты ж час узмацнілі біццё шкла... Ніякія ўгаворы і пераконванні не дзейнічаюць..."

Данііл (Грамавенка) скардзіўся ў міліцыю і прасіў уціхамірыць хуліганаў, аднак органы правапарадку на гэта ніяк не прарэагавалі. Падобных выпадкаў станавілася ўсё больш...

### ГАНЕННІ "ПЕРШАЙ БЯЗБОЖНАЙ ПЯЦІГОДКІ". 1933—1937 ГАДЫ

Масавыя арышты духавенства і міран з узрастаючай сілай далі аб сабе знаць у 1933 годзе. Вясной былі пазбаўлены волі вядомыя царкоўныя іерархі Беларусі, праваслаўныя епіскапы Слуцкі Мікалай (Шамяціла), Магілёўскі Феадосій (Вашчынскі). А акрамя таго арыштаваны абнаўленчы архіепіскап Дасіфей (Сцяпанаў), які служыў у Магілёве; самачынны архіепіскап Міхаіл (Постнікаў) з Віцебска, які ў гады вайны прынёс пакаянне, і ўжо вядомы лжэепіскап Савацій (Засімовіч).

Іх арышты азнаменавалі сабой пачатак так званай "першай бязбожнай пяцігодкі", для абслугоўвання патрэб якой улады актывізавалі дзейнасць новай грамадскай арганізацыі пад красамоўнай назвай: "Саюз ваяўнічых бязбожнікаў". Меркавалася на працягу пяці год закрыць на тэрыторыі Савецкай Беларусі ўсе да адзінай праваслаўныя цэрквы.

Разам з архірэямі ў 1933 годзе арышту падвергліся шматлікія клірыкі і міране.

На Случчыне, што ўваходзіла ў межы Мінскай епархіі, ахвярамі палітычных рэпрэсій сталі амаль усе свяшчэннікі, што так ці інакш аказаліся блізкімі да епіскапа Мікалая (Шамяціла), які пры няясных абставінах памёр падчас следства.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што калі ў 20-я гады ўлады інспіравалі раскол у Царкве, бачачы ў гэтым самы надзейны сродак да Яе аслаблення, то ў далейшым яны жорстка спынялі любыя спробы да аб'яднання розных царкоўных плыняў і груп, кваліфікуючы апошнія, як крымінал. Мы не ведаем дакладна, ці імкнуліся да пераадолення расколу ў Царкве іерархі, арыштаваныя ў 1933 годзе, але калі нават уявіць, што падобнае імкненне ў іх было, то варта адзначыць, што ажыццявіць яго ў 30-я гады ўжо не мелася магчымасці. Усякае аб'яднанне на царкоўнай глебе расцэньвалася



ўладамі, як імкненне да стварэння контррэвалюцыйнай арганізацыі і прыраўноўвалася да злачынства палітычнага характару. Такі быў сумны вынік расколу, што ўтварыўся ў Царкве.

Разам са Случчынай, асабліва пацярпеўшай ад арыштаў у 1933 годзе, беззаконні працягвалі тварыцца і ў іншых мясцінах Мінскай епархіі.

У самім Мінску ў красавіку 1933 года пазбаўленню волі падвергліся некаторыя свяшчэннаслужыцелі і прыхаджане, што групаваліся вакол Св. Мікалаеўскай царквы, якая знаходзілася ў раёне Козыраўскіх могілак. У прыватнасці, былі арыштаваны архімандрыт Гаўрыіл (Горбач), у мінулым настаяцель манастыра ў Лядах, протаіерэй Аляксандр Яхневіч, іераманах Нікан (Вараб'ёў), які перажыў рэпрэсіі і пасля вайны напісаў кнігу "Пісьмы духоўным дзецям" (яна выйшла ў эміграцыі).

Усе яны служылі сумесна з архіепіскапам Феафанам (Семяняка), прызначаным на мінскую кафедру мітрапалітам Сергіем (Старагародскім) у процівагу аўтакефальнаму епіскапу Філарэту (Раменскаму).

Па ўспамінах протаіерэя Барыса Васільева, "Уладыка Феафан заваяваў надзвычай вялікую папулярнасць і павагу сярод веруючага народа. Ён быў надзвычай ласкавы з людзьмі, ветлівы і абыходлівы. Паколькі храм у Козыраве з'яўляўся малаўмяшчальным, у марозныя дні епіскап Феафан часта звяртаўся да прыхаджан, гаворачы: "Міленькія мае, выйдзіце, дайце абагрэцца іншым", і такім чынам прыцягваў да сябе сімпатыі вельмі многіх, так што найбольш веруючыя людзі хадзілі пешшу маліцца ў яго царкву..."

Тых, каго арыштавалі ў 1933 годзе, у асноўным прыгаворвалі да розных тэрмінаў зняволення ў канцлагеры ці да ссылкі ад 3 да 5 гадоў, але ўсё часцей расстрэльвалі...

Так, у сувязі з масавым хаджэннем вернікаў у царкву да расстрэлу быў прыгавораны настаяцель храма с.Таль Любаньскага раёна а.Сергій Радакоўскі. Адначасова з ім расстралялі псаломшчыка царквы Андрэя Лутовіча і старасту Аляксея Муравейку. Прыгаворам ад 15 сакавіка таго ж года быў расстраляны абнаўленцкі свяшчэннік Ілья Мандзік з с.Станькава Койданаўскага раёна.

Свяшчэннік Фёдар КРЫВАНОС.

Працяг. Пачатак у №№ 22—24.

НА ЗДЫМКУ: ігумен НІКАН.

*ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, НАРАЧ!

**Прыходзіць лета звонкае**
**птушынаю гамонкаю,**
**Над сінімі азёрамі яно**
**ўзыходзіць зорамі,**
**А пахне медуніцамі**
**і спелымі суніцамі...**

Гэтымі радкамі з верша Сяргея Грахоўскага "Лета" мне хочацца пачаць гаворку аб адпачынку групы дзяцей з Украіны ў летніку "Зубраня", які месціцца ў маляўнічым куточку беларускай зямлі -- на беразе возера Нарач. Разам з імі пашчасціла і мне пазнаёміцца і з возерам, і з летнікам, -- хаця я і вырас у Беларусі, але ўпершыню ў сваім жыцці трапіў так далёка ад Мінска...

Маё першае ўражанне ад гэтых мясцін проста ашаламляльнае: не верылася нават, што гэта ўсё ў Беларусі, а не дзе-небудзь у Швейцарыі! Але, дзякаваць Богу, гэта ўсё ж у Беларусі, на маёй Бацькаўшчыне, на зямлі бацькоў і дзядоў дзяцей, якія ўпершыню апынуліся ўвогуле ў краіне, мову якой яны палюбілі, наведваючы заняткі гуртка беларускай культуры "Зорка Венера", які ўжо 10 гадоў працуе ў сярэдняй школе N 1 старадаўняга горада Ізяслаў Хмяльніцкай вобласці. Лепшыя з лепшых, а менавіта: Андрэй Раманюк, Вадзім Якімчук, Дзмітрусь Гладуш, Алесь Губернатар, Мікола Саўчук, Вікторыя Трубай, Вікторыя Палішчук, Ганна Камінская і Аксана Шнайдар, дзякуючы намаганням вядучага інспектара Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь спадара Генадзя Пяцігора атрымалі пуцёўкі ў рэспубліканскі летнік "Зубраня", дзе зараз ідзе першая змена. Адпачываюць мае выхаванцы ў дружыне "Лазурная" ў 1, 4 і 5 атрадах, важатымі якіх з'яўляюцца Валеры Галаваты і Таццяна Жгун (1), Таццяна Іёська і Наталля Канаш (4), Юрась Выхрыстаў і Наталля Маліноўская (5).

Прайшоў першы тыдзень адпачынку, і ўжо можна тое-сёе сказаць самому і паслухаць думкі дзяцей. Пачну, бадай, з таго, з якою мэтаю мы сюды ехалі -- папрактыкавацца ў гутарковай беларускай мове. Думалася там, на Украіне, што "Зубраня" -- люстэрка ўсіх летнікаў краіны і ўжо тут абавязкова будзе гучаць беларуская мова, мова нашых любімых паэтаў Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, і калі не з вуснаў дзяцей, дык ужо з вуснаў важатых абавязкова (на Украіне ў летнікі на працу прымаюцца асобы, якія дасканала валодаюць украінскай мовай!). Мушу адзначыць, на правялікі жаль, што беларуская мова не гучыць з вуснаў важатых. Што, праўда, гучыць яна, хоць і рэдка, але ўсё ж з вуснаў дзяцей, якія наведвалі беларускамоўныя школы, ці дзяцей з беларускіх вёсак. Дзякаваць Богу і за гэта: мае выхаванцы з Украіны маюць магчымасць чуць беларускую мову не толькі з маіх вуснаў. Пашанцавала дзяўчынкам, якія знаходзяцца ў 5-м атрадзе, дзе разам з імі адпачывае вучаніца 169-й сярэдняй школы горада Мінска Ала Сангові ч. Дзяўчынка дасканала валодае беларускай мовай, з ёю прыемна паразмаўляць на розныя тэмы, якія хвалююць дзяўчынак. Што ж тычыцца важатых, то на ўсіх мерапрыемствах, якія мне давялося паназіраць, яны ўжываюць у зносінах з дзецьмі толькі рускую мову. І ўвесь матэрыял для гэтых мерапрыемстваў яны бяруць з расійскіх крыніц: і песні, і казкі, і загадкі, і прымаўкі -- усё спрэс расійскае! Як быццам бы ў беларусаў няма сваіх казак, песень, загадак ці прымавак, альбо яны горшыя па мастацкіх вартасцях за расійскія! У гэтай сувязі хачу прачытаць па памяці верш Пятра Бітэля "Унуку", які нават ведаюць мае дзеці з Украіны:

**Любіць сваё -- зусім не значыць**
**Чужое ганіць, адмаўляць.**
**Вось за чужым свайго не бачыць,**
**Не вывучаць, не шанаваць --**
**Злачынствам будзе без сумнення,**
**Бо ёсць такі закон жыцця:**
**Шануй чужое аж да пакланення,**
**Сваё любі да самазабыцця.**

Сапраўды, чужое ў "Зубраняці" шануюць "аж да пакланення", за ім, "чужым", свайго проста ўжо не бачаць і бачыць наўрад ці хочуць... Прыкра такое чуць і бачыць на ўласныя вочы. Але што ёсць, тое і ёсць...

Безумоўна, калі апусціць гэтыя хібы, то можна адзначыць вялікую актыўнасць важатых, якія за дзень паспяваюць з дзецьмі перарабіць безліч спраў. Удала прайшлі такія мерапрыемствы, як "Экалагічны дзень", гульня "Вуснамі дзіцяці", "Абракадабра". А наперадзе дзятву чакаюць гульні "Кола фартуны", "Спартландыя", фестываль мастацтваў, выстава работ удзельнікаў гурткоў і шэраг іншых.

А што думаюць пра свой адпачынак самі дзеці з Украіны? Давайце паслухаем іх. Першае слова бярэ самая актыўная з іх, Вікторыя Трубай.

-- Што мне падабаецца ў летніку "Зубраня"? Канечне ж, разнастайнасць мерапрыемстваў, якія з намі праводзяць важатыя Таня і Наташа. А не падабаецца мне ў летніку дрэннае надвор'е, "дзякуючы" якому мы пазбаўлены магчымасці купацца ў возеры Нарач...

-- А мне не падабаецца тое, што пустуе стадыён, футбольнае поле якога так вабіць на свой зялёны газон, над якім красуецца транспарант "Олимпийцы среди нас", -- падключаецца да размовы Вадзім Якімчук, які вельмі любіць спорт. -- Няма сталоў для настольнага тэніса ў дружыне, ды й проста мячоў не хапае для ўсіх жадаючых! Што мне тут падабаецца, дык гэта дыскатэкі, дзе можна размяцца...

-- Мне таксама! -- падтрымлівае свайго сябрука і аднакласніка Дзмітрусь Гладуш. -- А не падабаецца адсутнасць гарачай вады. І ніхто не ведае, калі яна будзе...

-- Я таксама лічу гэта вялікім мінусам для летніка, -- падтрымлівае Дзмітруся Андрусь Раманюк. -- Набегаешся за дзень, увесь брудны, а змыць гэты бруд разам з потам няма дзе, бо не працуе душ! Што мне падабаецца ў "Зубраняці"? Цяжка сказаць, але найперш мне падабаецца тутэйшае паветра: чыстае, амаль ап'яняючае водарам хвойным, і хочацца гэтым водарам дыхаць бясконца!..

-- Мне таксама даспадобы мясцовае паветра, сам прыгажун лес, вялікае і вельмі чыстае возера, уважлівыя адносіны да нас нашых важатых, -- дзеліцца сваімі ўражаннямі Ганна Камінская. -- А не падабаецца тое, што многія беларускія дзеці дрэнна валодаюць сваёй роднай мовай, затое бліскуча засвоілі рускі мат і ўжываюць гэтыя брудныя словы амаль на кожным кроку, асабліва агідна іх чуць ад дзяўчынак...

-- Я таксама абурана бруднаслоўем у летніку, -- паўтарае ўслед за Ганнай яе сяброўка Вікторыя Палішчук, -- але будзем справядлівымі: у нашым класе ёсць нямала аднакласнікаў, якія ні ў чым не ўступаюць мясцовым бруднасловам! Гэтая з'ява стала ўжо інтэрнацыянальнай. Мы прыехалі ў Беларусь упершыню, таму я яшчэ добра й не паспела разабрацца, што мне падабаецца, а што не. Але я вельмі задаволена, што трапіла сюды, на радзіму маёй бабулі. У мяне з'явілася шмат сяброўак-беларусак, якія мне апавядаюць шмат цікавага пра свой родны Мінск, Маладзечна ды Валожын.

-- А я й не заўважыў, як шпарка праляцеў першы тыдзень у летніку "Зубраня", -- працягвае размову Алесь Губернатар, хлапец надзвычай лагодны, спакойны і выхаваны. -- У мяне з'явіўся сябра-беларус Сяргей, з ім мне вельмі цікава, я задаволены ўсім, што тут у мяне ёсць!

-- Я таксама, -- падтрымлівае Алеся Мікалай Саўчук. -- Не падабаюцца мне... камары! Крывасмокі, яны мне ўжо так абрыдлі!

А падводзіць вынікі гэтай "прэс-канферэнцыі" Аксана Шнайдар.

-- Як ва ўсім і ва ўсіх, так і ў летніку "Зубраня" ёсць свае і плюсы, і мінусы. Ад гэтага нікуды не дзецца! Я ўважліва слухала сваіх сяброў з "Зоркі Венеры" і згодна з усімі іхнімі выказваннямі. Да ўжо сказанага імі магу дадаць, што вельмі і вельмі шчаслівая, што трапіла на радзіму маёй маці, якая паходзіць з Мядзельшчыны. Тое, што яна мне апавядала, я змагла пабачыць на свае ўласныя вочы. А вы ж ведаеце прымаўку: "Лепш адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць!"

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Украіна.

# АДБЫЎСЯ РЭФЕРЭНДУМ

Нарэшце адбыўся ў Беларусі рэферэндум. Прыйшло галасаваць 64,5 працэнта выбарцаў. З іх 76,2 -- 83 працэнты адказалі "але" па ўсіх чатырох пунктах. Выходзіць, што нібыта большасць беларускага народа адказала "за".

І пайшло, і пайшло. Далоў беларускую мову з дзяржаўных устаноў, замяніць яе расійскай, а яе загнаць зноў у вёску, як гэта было да 1919 года!

Далоў старадаўнюю беларускую сімволіку з прыгожым бел-чырвона-белым флагам і гербам з Георгіем Пабеданосцам! Няхай жыве бальшавіцкая сімволіка!

Далоў незалежнасць Беларусі! Загонім яе зноў у Расійскую імперыю.

Заткнуць вусны парламентарыям! Няхай сабе ціха сядзяць і паддакваюць прэзідэнту.

Толькі не ўсё так проста. Гэта толькі нібыта беларускі народ адказаў "але". Давайце памяркуем.

35 працэнтаў выбарцаў не пайшлі на галасаванне. А чаму? Таму што ім не патрэбна дзяржаўнасць расійскай мовы, не патрэбна бальшавіцкая сімволіка, не патрэбна інтэграцыя з Расіяй.

Такім чынам, гэтыя 35,5 працэнта выбарцаў фактычна на ўсе 4 пытанні адказалі "не".

На першае пытанне адказалі "не" 170 выбарцаў, якія прыйшлі на галасаванне. Выходзіць, што разам адказалі "не" 52,5 працэнта беларускага народа.

Супраць бальшавіцкай сімволікі выказаліся 35,5 + 23,8 = 59,3 працэнта.

Супраць інтэграцыі з Расіяй 35,5 + 17,7 = 53,2 працэнта.

Супраць расшырэння праў прэзідэнта 35,5 + 22,1 = 57,6 працэнта.

Такім чынам, большасць беларускага народа адказалі на ўсе 4 пытанні "не".

Дык што ж адбылося: рэферэндум ці лухта?

**Г. ЯЎНЕВІЧ.**
**(Я адзін са старэйшых беларусаў Галічыны, бо маю 86 гадоў).**

Украіна.

# ДУМКА ЗАМЕЖНАГА БЕЛАРУСА

Вельмі паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Дзякуй вам, што вы апублікавалі мой ліст у вашай газеце N 7 (2409) 6 лютага 1995 года. Хаця я не спадзяваўся на гэта, але бачу, што ёсць людзі ў роднай Беларусі, якія хочуць ведаць і данесці да іншых думкі замежных суайчыннікаў аб Беларусі. Гэта, вядома, добры помысел. На мой погляд, у замежжы адбылася змена ў тым, што калісь усё было пастаўлена супраць камуністычнага рэжыму і быў недавер, адносіліся адзін бок да другога з вялікай асцярогай. Вось гэтае засталося і ў цяперашні час -- абодва бакі без даверу адзін да аднаго. Гэта павінна знікнуць і пачацца збліжэнне паміж усімі беларусамі. У замежжы беларусы вельмі радуюцца, калі беларускія спартсмены робяць поспехі, цешыць іх і тое, што Беларусь становіцца ўсё больш вядомай за граніцай.

Вось адсвяткавалі 50-годдзе Дня Перамогі. Але ў мяне, тады 8-гадовага хлапчука, засталіся цяжкія ўспаміны аб вайне. Як толькі Саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь, пачалі вывозіць беларусаў, палякаў у Сібір, як іранічна называлі, на белыя мядзведзі. Родныя вывезеных у Сібір, што засталіся, і сваякі ўжо мелі нянавісць да ўлады.

Беларусаў Саветы абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з немцамі, а немцы абвінавачвалі беларусаў у супрацоўніцтве з партызанамі, білі людзей і палілі вёскі. Беларускія вёскі плацілі дарагую цану ў другую сусветную вайну. Усё, што сяляне мелі: хлеб, мяса, яйкі, адзежу -- забіралі і немцы, і партызаны. Плацілі мільёнамі жыццяў, плацілі крывёй як адным, так і другім. Я не віную ні беларусаў-камуністаў, ні беларускіх жыдоў, што яны ратавалі сваё жыццё і ўцякалі ў лес, не віную і тых беларусаў, якія ратавалі сваё жыццё ад партызанаў ды ішлі ў войска ці паліцыю, бо іншага выхаду не было ні для партызан, ні для іх.

У беларусаў мусіць утварыцца новая ідэя -- не жыць усцяж прошлым і аддаваць шмат для прошласці. Беларус павінен адчуцца вольным, гордым сваёй гістарычнай мінуўшчынай і славай сваіх продкаў, якія жылі на гэтай зямлі. Беларусь, якая паліта крывёю розных насяленцаў, а найбольш беларускай, Беларусь, дзе ад даўніх часоў спачываюць воіны з розных краін і розных канфесіяў, якія гінулі за розныя ідэі, павінна была б стаць такой краінай, як Швейцарыя, -- нейтральнай. Другая сусветная вайна была для Беларусі пеклам, якое не можна забыць.

З вялікай павагай

**К.ВЕРАБЕЙ.**

ЗША.

# ГЭТА КНІГА ЯК ПАМЯЦЬ

Вільня -- калыска многіх культур: літоўскай, польскай, беларускай, яўрэйскай і іншых. І беларускія пісьменнікі ў гэтым годзе часта наведваюць Вільню, сустракаюцца з літоўскімі беларусамі. Нядаўна народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў сустрэўся з сваімі землякамі, з вучнямі беларускай школы. Ужо другі раз сёлета пісьменнік наведвае Літву. На гэты раз у Саюзе пісьменнікаў Літвы адбылася прэзентацыя яго кнігі "Альпійская балада", выдадзенай на літоўскай мове. Выдатны мастак слова ў сваіх раманах і аповесцях адкрыта і праўдзіва расказвае нам пра вайну. Гэта першая кніга твораў беларускіх пісьменнікаў, выдадзеная на літоўскай мове за апошнія пяць гадоў. Яна выйшла тыражом 4 000 экземпляраў.

Некалі былі добрыя, трывалыя сувязі беларускай і літоўскай літаратур. Часта сустракаліся пісьменнікі. Змяніліся варункі. Дзяржавы атрымалі самастойнасць. Але сувязі ў галіне культуры значна аслаблі. Яны цяжка наладжваюцца і лёгка рвуцца. Літоўцы менш цікавяцца беларускай літаратурай, як і беларусы -- літоўскай. З захапленнем слухалі выступленне пісьменніка аб тым, што турбуе беларусаў Вільні -- адраджэнне мовы, культуры, звычаяў, падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі. "Беларусь перажывае цяжкі перыяд, перыяд вялікага расчаравання. Дэмакратыя вельмі нетрывалая, а рэакцыйныя сілы вельмі моцныя", -- падкрэсліў у сваім выступленні В.Быкаў.

Боль, свае думкі і адчуванні, народжаныя складаным жыццём сучаснага грамадства, заклапочанасць лёсам свайго народа -- усё гэта адчувалася ў выступленні пісьменніка.

А выхад кнігі В.Быкава на літоўскай мове ў гэты эканамічна цяжкі перыяд -- падзея ў культурным жыцці літоўскага і беларускага народаў. Пажадана, каб сувязі ў галіне літаратуры падтрымліваліся як мага цясней, гэта галоўная мэта выдання кнігі.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Літва.

# НАКІПЕЛА НА ДУШЫ

Шматпаважаная рэдакцыя любімай мною газеты "Голас Радзімы"!

Пішу вам, таму што сэрца і душа абліваюцца крывёю і крыўдай ад таго, што творыцца на маёй Радзіме. Гэта проста нейкі абсурд, што прынялі той сцяг, пад якім столькі загублена душ у Сібіры і на Салаўках, у сталінскіх лагерах смерці. Колькі таленавітых людзей згінула ў тых месцах! Я проста быў шакіраваны, калі "Астанкіна" аб'явіла, што над Мінскам развяваецца чырвона-зялёны флаг. Гэта ганьба нацыі перад усім светам.

Вядома, Расія вітае беларускі рэферэндум. Я жыву ў Івана-Франкоўскай вобласці ў горадзе Калуш на Украіне, мае знаёмыя мне гавораць: "Што ж беларусы так падвялі, як можна было такое дапусціць?" Яны проста адкрыта смяюцца.

Вы прабачце мне за мае словы, але я пішу тое, што накіпела ў мяне на душы.

**Уладзімір БУРКО.**

Украіна.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ..."

У 1939 годзе перад адказным рэдактарам музычнага вяшчання магутнай радыёстанцыі ў Баранавічах, які меў выдатную фальклорна-практычную кваліфікацыю і тысячы запісаў напеваў беларускай народнай песні, адкрыліся добрыя магчымасці для іх абнародавання. Цітовіч арганізуе фальклорныя перадачы, радыёканцэрты, выступленні лепшых народных спевакоў, кампазітараў, паэтаў.

Тут адбылася і яго выдатная сустрэча з Янкам Купалам, аб якой фальккларыст, як заўсёды, апавядаў з добрым гумарам:

-- Калі я зайшоў да Янкі Купалы ў гатэль, яны з сябрамі частаваліся. Мяне прадставілі "дзядзьку Янку" як этнографа-музыказнаўцу і ён працягнуў чарку гарэлкі. Калі я сказаў, што да гэтага часу (да 29 гадоў -- **В.Л.**) яшчэ не ўжываў гарэлкі, Купала здзівіўся і кінуў: "Які ж ты г..ны этограф, калі не ўмееш выпіць?" Не мог я дазволіць сабе адмовіцца прыняць чарку з рук самога Купалы. Далей было лягчэй".

З-за перадач роднай песні і радыёстанцыя, і музычны рэдактар сталі вельмі папулярнымі. Сыпаліся заяўкі, а некаторыя спевакі нават самі прыходзілі, каб паспяваць на радыё (на вялікі жаль, цяпер гэта немагчыма, але чаму? -- **В.Л.**). Цітовіч ніколі не адмаўляў ім.

Аднойчы ў кастрычніку да яго прыйшлі дзве выключна таленавітыя маладыя спявачкі Вольга і Вера Федчык з вёскі Вялікае Падлессе. Яны прыгожа паспявалі свае песні, якіх ведалі столькі, што іх "на валовай скуры не запішаш", запрасілі Цітовіча ў сваю песенную вёску, а неўзабаве нават прыслалі бацьку за ім на фурманцы.

Гэты выезд Цітовіча стаў пачаткам яго даўнішняй мары аб стварэнні беларускага народнага хору. Вёска Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна з яе выключнай падгалосачнай спеўнай культурай стала месцам, дзе творча ўзгадаваўся будучы стваральнік Дзяржаўнага народнага хору Беларусі, які, падобна хору Пятніцкага ў Расіі, годна нясе імя Цітовіча ў наш час. Асновай задумы было зрабіць калектыў узорам перанясення беларускай народнай песні на сцэну. Амаль адразу, калі Генадзь Цітовіч на відавоку ўсёй вёскі, праслухаў ля хаты васемнаццаць спевакоў Вялікага Падлесся з добрымі галасамі і слыхам, ён зразумеў, што яму моцна пашанцавала ў жыцці і назаўсёды звязаў свой лёс з гэтай вёскай.

Цітовіч, хоць сам вырас у рэгіёне аднагалосся, не стаў перарабляць, як гэта часта робяць у наш час выпускнікі універсітэта культуры, высокамастацкага стылю падгалосачнай падлескай культуры, а сам пачаў вучыцца ёй. Удзельнікі хору на чале з самародкам Васілём Пётухам урачыста, у святочнай вопратцы, аздобленай тонкай вышыўкай, прыходзілі на спеўкі як на самую святую справу. Ужо ў лістападзе 1939 года падлескі хор спяваў "Ой, ты хмель, мой хмялёк", "Ой, да белая бяроза", "Каб я тое знала", "Ды ў зялёнай дуброве", "Ой, з-пад горы," па баранавіцкай радыёстанцыі. Музычны рэдактар у любое надвор'е кожную суботу, на матацыкле ездзіў за трыццаць кіламетраў у вёску на спеўкі, запісваў лепшыя мелодыі, танцы, музыку. Калектыў сталі запрашаць на канцэрты і хутка ён зрабіўся вядомым па ўсёй Беларусі.

У першай палове 1940 года ён удзельнічае ў абласным і рэспубліканскіх аглядах. Яго называюць адным з лепшых калектываў Беларусі і таму ён удзельнічаў у Першай дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве і атрымаў у падарунак баян.

Гэта быў плённы для Цітовіча час, напоўнены вялікай творчай і збіральніцкай працай. У сям'і з'явілася дачка Таццяна.

Але тут грымнула вайна, і сям'я Цітовічаў рушыла на ўсход. Ля Клецка даведаліся, што ў горадзе ўжо немцы, а таму прыйшлося вярнуцца ў Баранавічы (колькі праблем потым было ў Цітовіча з КДБ з-за гэтага прымусовага вяртання як адзінага выйсця. -- **В.Л.**).

У бязвыхадным становішчы, бо трэба ж карміць сям'ю, асабліва малое дзіця, выкладае спевы ў 5-й школе -- спявае з дзецьмі родныя песні, а потым з дапамогай віленскага знаёмага доктара Уладзіміра Лукашэні перабіраецца ў Ляхавічы, дзе жонка Вольга Мацвееўна становіцца загадчыкам аптэкі. Цітовіч памагае ёй.

Карцела наведаць Вялікае Падлессе, да якога было ўсяго 20 кіламетраў, але аднойчы да яго прабралася Вера Федчык. Яна папярэдзіла, што яму ў вёсцы нельга з'яўляцца, а яны на спеўкі прадаўжаюць збірацца.

Неўзабаве ў аптэцы Ляхавіч з'явіліся вядомы па Віленскаму універсітэту заолаг Казімір Петрусевіч, былы супрацоўнік баранавіцкай радыёстанцыі Яўген Ярумскі, які, як і Уладзімір Лукашэня, дапамагаў партызанам. Цітовіч з жонкай сталі дапамагаць самым неабходным у тых умовах -- медыкаментамі. Два гады працягвалася гэта страшэнна небяспечная праца, але Цітовічы з маленькай дачкой годна вытрымалі цяжкае выпрабаванне.

Аб павазе да яго сям'і людзей найбольш красамоўна сведчыць, напрыклад, тое, што нават ляхавіцкі бургамістр Прыжога, сам беларус, папярэдзіў іх аб небяспецы арышту. Сям'я Цітовічаў хуценька перабралася ў Наваградак, дзе іх абагрэў і прытуліў сябра Генадзя па Віленскай духоўнай семінарыі Павел Кірык. Больш таго, Цітовіч стаў кіраваць царкоўным хорам, рабіць святую справу і меў магчымасць карміць сям'ю. Партызаны не забылі, хто ім так памагаў, і перад самым вызваленнем, каб выратаваць сям'ю Цітовічаў, прыслалі праваднікa, які вывеў яе на вызваленую тэрыторыю.



Неўзабаве Цітовіч вяртаецца на баранавіцкую радыёстанцыю. Яго прызначаюць адказным рэдактарам "Апошніх паведамленняў" -- бо вайна!

Зразумела, што хутка ён прымчаўся ў Вялікае Падлессе. О, колькі тут было радасці, слёз, горкіх успамінаў аб загінуўшых! Але смерць іх яшчэ больш згуртавала спевакоў!

Усё Вялікае Падлессе зноў сабралася, як і ў 1939, на спеўкі. Пасля іх Цітовіч вярнуўся ў Баранавічы з вялікім стосам запісаных песень, сярод якіх асабліва запала ў душу "Зацвілі садочкі".

Пад адным дахам з радыёстанцыяй у Баранавічах знаходзіўся тады і абласны дом народнай творчасці, дзе Цітовіч стаў праводзіць шмат часу і хутка яго прызначаюць намеснікам Міколы Шчасновіча, начальнікам абласнога аддзела мастацтваў.

Музыказнаўцу-практыку Генадзю Цітовічу цікавей за ўсё было працаваць з падлескім хорам. У выніку вялікай творчай працы калектыў прызнаецца лепшым на Беларусі і прадстаўляе ў 1945 годзе беларускае мастацтва ў Маскве. Знаўца народнай песні кампазітар Мар'ян Каваль успамінаў: "Мерна пакалыхваючыся, жанчыны заспявалі лірычную песню "Ой, рэчанька, рэчанька" (выключнага запісу Г.Цітовіча, якая разам з "Зоркай Венерай" у запісу Р.Шырмы сталі песеннымі эмблемамі Беларусі -- **В.Л.**). Надзвычай прыгожую песню яны спяваюць ціха, нібы баючыся распляскаць цудоўную мелодыю, спяваюць з тым артыстызмам, які хвалюе і выклікае слёзы замілавання".

У другой палавіне 50-х гадоў Цітовіч вядзе нястомную працу па запісу лепшых песень з мелодыямі па ўсёй Беларусі, асабліва ва ўсходніх раёнах, дзе ён раней не быў. Фальклорныя падарожжы на Гомельшчыну, Маладзечаншчыну папаўняюцца шматлікімі запісамі з гэтых мясцін.

Высокакваліфікаваны музыказнаўца-практык не толькі запісвае старажытна-традыцыйныя ўзоры лепшых песень беларусаў, але і праводзіць даследаванне змен у іх мелодыцы, рытме, структуры, змесце, іх адпаведнасці спецыфіцы і самабытнасці песнятворчасці народа. Асабліва ўважліва ён назіраў за "народнымі праўкамі ў тых тэкстах паэтаў і мелодый кампазітараў, якія станавіліся народнымі песнямі ("Любы зоры залацістыя", "Люблю наш край", "Коціць удаль Нёман чыстыя воды", "Над ракою ў спакою", "Колькі ў небе зор" і многія іншыя). Увесь гэты велізарны матэрыял атрымаў сваё абагульненне ў навуковым дакладзе 1946 года "Беларуская народная музычная практыка сёння" (як не хапае ў наш час нацыянальнага Адраджэння такіх прац, і як далёкія нашы сучасныя фальккларысты-музыказнаўцы ад такой працы Цітовіча. -- **В.Л.**).

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Вольга і Генадзь ЦІТОВІЧЫ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 20—22.**



**У раённым цэнтры Крупкі адкрыўся гісторыка-этнаграфічны музей. Створаны ён сумеснымі намаганнямі мясцовага аддзялення Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, раённага аддзела культуры і шэрагу прадпрыемстваў горада, якія аказалі матэрыяльную падтрымку новаму музею. Вядома, стварэнне музея -- гэта, у першую чаргу, заслуга энтузіястаў -- народных майстроў Таццяны Белай, Надзеі Крыварот, мастакоў Аляксандра Міхеева і Сяргея Варламава і іншых.**

**У зале баявой славы музея сабраны матэрыялы аб земляках, якія праславілі раён у гады Вялікай Айчыннай вайны. Дзве іншыя залы прысвечаны народнай творчасці, сельскаму быту, звычаям і традыцыям, што бытуюць у тутэйшых мясцінах.**

**Ткачыха Надзея Крыварот у музейнай зале дэманструе работу на кроснах. Адкрыццё этнаграфічнага музея стала для горада сапраўдным святам. Гучалі народныя песні, гасцей частавалі пышнымі блінамі, беларускім салам і душыстай медавухай.**

**НА ЗДЫМКУ: у адной з выставачных залаў.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Фота аўтара.**

# СКАРЫНІЯНА ПРАДАЎЖАЕЦЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Аднак гэтыя спробы месцамі выклікаюць і некаторыя пярэчанні. Бо недастаткова канстатаваць, што беларускі гуманіст быў глыбока веруючым хрысціянскім асветнікам. Важна раскрыць яго індывідуальную непаўторнасць як асобы, своеасаблівасць і складанасць яго поглядаў і імкненняў. Бачыць жа сутнасць усёй маральна-філасофскай канцэпцыі Скарыны ў ідэі пакорлівасці (смирения), як гэта робіць А.Каўка, і зноў падаваць яго сярэднявечным, глыбока працятым страхам Божым і адчуваннем уласнай нікчэмнасці манахам-багасловам, будзе і несправядліва, і неаб'ектыўна. І хіба такім ён паўстае перад намі на вядомым аўтапартрэце?

Тэндэнцыя прывязаць беларускага асветніка выключна да праваслаўнага адраджэння праглядваецца ў цікавым артыкуле Л.Ляўшун. Не прымаючы аднабаковай характарыстыкі Скарыны як чыста рэнесансавага гуманіста, даследчыца бачыць вытокі яго светапогляду толькі ў традыцыях праваслаўнага хрысціянства, яўна перабольшваючы прынцыповую розніцу паміж візантыйска-праваслаўнай і рымска-каталіцкай хрысціянскімі сістэмамі. На самай жа справе, калі строга прытрымлівацца фактаў і падыходзіць да ацэнкі Скарыны ўсебакова і непрадузята, ніяк немагчыма поўнасцю адлучыць яго ад традыцый еўрапейскага Рэнесанса. Правёўшы добрую палову свайго жыцця ў рэнесансавай Еўропе, ён не мог і не застаўся ўбаку ад новых павеваў часу. Спрэчным здаецца нам і меркаванне даследчыцы, што рэнесансавы гуманізм бяднейшы, чым хрысціянскі (быццам першы, узвялічваючы і праслаўляючы чалавека, адмаўляў хрысціянскую любоў да яго), і што на ўсходнеславянскай глебе было прынцыпова немагчыма ўзнікненне рэнесансавага гуманізму.

Літаратурнае майстэрства Скарыны-пісьменніка аналізуецца ў артыкулах расійскага вучонага А.Дзёміна "Скарынаўскія прадмовы да біблейскіх кніг як літаратурны цыкл" і беларускай даследчыцы А.Яскевіч "Францыск Скарына і рытарычная культура". Вядомыя беларускія мовазнаўцы А.Булыка і Л.Шакун раскрываюць уклад нашага асветніка ў развіццё старабеларускай літаратурнай мовы. Складаныя праблемы мастацкага афармлення скарынаўскіх кніг у кантэксце еўрапейскіх кніжных традыцый закранае В.Пуцко, а віленскі вучоны П.Івінскі падае кароткі агляд меркаванняў расійскіх, беларускіх і літоўскіх даследчыкаў аб уплыве Скарыны на ўзнікненне літоўскага кнігадрукарства.

Тут няма магчымасці спыняцца на гэтых і іншых публікацыях, змешчаных у зборніку. Аднак нельга не адзначыць у заключэнне і не ўхваліць цікавую і каштоўную спробу маскоўскага прафесара А.Нарбута скласці генеалагічнае дрэва Скарынаў. Ён змог выявіць больш сотні імёнаў 15 кален гэтага роду, пачынаючы ад полацкага купца Лукі, бацькі першадрукара, і канчаючы дзецьмі доктара медыцыны Стэнлі Скарыны, што жыве ў Канадзе.

Такім чынам, выдадзены ў Маскве зборнік, прысвечаны Францішку Скарыне, дае багаты матэрыял для сур'ёзнай і плённай гаворкі пра многія важныя аспекты скарыназнаўства, змяшчае артыкулы вельмі рознага зместу і характару, у тым ліку дыскусійныя, што гаворыць аб складанасці закранутых праблем. Ён яшчэ раз засведчыў плённасць аб'яднання намаганняў вучоных розных краін у даследаванні невычэрпнай спадчыны вялікага асветніка беларускага народа і будзе карысны кожнаму, хто зможа пазнаёміцца з яго зместам.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**

# БУДУЙМА ДУХОЎНЫ ПАНТЭОН

## НАТАТКІ НА ПАЛЯХ "МАСЕЕВАЙ КНІГІ"

Літаратурная дзейнасць патроху перастае быць святым таемствам. Мінаюцца тыя часы, калі Уладзімір Караткевіч, сядаючы за стварэнне нацыянальнай літаратуры (і ўсведамляючы гэта), адчуваў патрэбу акуратна памыць рукі й апрануць чыстую кашулю.

Сёння пісьменнік (і не пачатковец ужо) можа, не раўнуючы як у карчму, "забегчы" ў прозу, паэзію ці "злабадзённую" крытыку, каб расказаць байку-другую, аблаяць некага -- і далей паджгаць, да справаў сумнеўных і не маючых нічога агульнага з сапраўднай творчасцю. Асабліва злосці й дробнае помслівасці не бракуе ў мемуарах некаторых літаратурных генералаў. Адзін аднаго высмейваюць, і няўцям ім, што ненадзейнае апірышча -- пастамент, збудаваны на прыніжэнні іншага. Падобны жанр, надзіва папулярны апошнім часам, паклікаў да жыцця дасціпную й "канкрэтную" эпіграму Р.Барадуліна:

**Два літаратурныя Іваны,**
**змыўшы са спіны**
**цэкоўскі глей,**
**са свайго дзярма**
**прымаюць ванны --**
**і самаакупней, і цяплей.**

Масей Сяднёў жыве ў мястэчку Глен-Коў пад Нью-Йоркам, далёка ад мінскай калялітаратурнай мітусні, ад барацьбы за прэміі, перавыданні, прыжыццёвыя шматтомнікі й пасмяротныя помнікі. Ці не таму ягоныя "назіранні за літаратурным працэсам на Бацькаўшчыне" ўяўляюць вартасць яшчэ й таму, што яны -- погляд збоку, погляд найбольш аб'ектыўны, які мае на ўвазе найперш літаратурнае даследаванне.

"Масеева кніга" -- унікальнае, шмат у чым нязвыклае для беларускага чытача выданне. Яго шматжанравасць дазваляе аўтару праявіцца ў розных вымярэннях, розных праекцыях, а чытач мае магчымасць са свайго статычнага гледзішча назіраць рухомую постаць творцы. Змесціва кнігі склалі ўспаміны, старонкі дзённіка, эсэ, пераклады, лісты. На першы погляд, здаецца, што ў зборніку няма таго стрыжня, таго рубля (драўлянага, што не баіцца інфляцыі), якім можна было б надзейна ўціснуць бухматы непрычасаны воз з пахучым разнатраўем. Але рубель гэткі ёсць, і часаны ён з настальгічнага дрэва -- менавіта пастаяннае вяртанне з заакіянскай далечы на Беларусь, прыземленасць аўтарскіх подумак Радзімай і не дае расцерушыцца стажку "Масеевай кнігі" на асобныя шчынкі.

Калісьці слынны віцебскі мастак Марк Шагал, які фанатычна любіў свой родны горад і ўвесьчасна вяртаўся ў яго ў сваіх карцінах-снах, у шчымліва-светлых вершах, здзівіў еўрапейскую грамадскасць адмовай наведаць Віцебск па дарозе ў Маскву. Мастак не хацеў, каб яго спасцігла расчараванне, асцерагаўся трапіць на руіны гэтак дарагой яго сэрцу мроі. Падобнае балючае расчараванне падпільноўвае кожнага абазнанага ў роднай гісторыі беларуса, калі ён упершыню прыедзе, напрыклад, у Полацк. Ведаючы пра Полацк як пра калыску беларускай дзяржаўнасці, гэты беларус, ідучы на святло Сафіі, што "плыве над Дзвіною, нібы карабель", рызыкуе заблудзіцца ў чырвоных аблупленых мурах сталінскіх забудоваў, заблытацца ў чужых прозвішчах чужых герояў, што мелі да Беларусі досыць апасродкаваныя дачыненні. Напрыклад, у Полацку й па сённяшні дзень ёсць вуліца Карла Маркса, на якой месціцца домік Пятра Першага, дзе знайшла сабе прытулак бібліятэка імя Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, а перад домікам сядзіць калматабровы Леў Талстой...

Адведзіны М.Сяднёвым сучаснага Мінска таксама прайшлі пад пазнакай радасці й расчаравання: "У маёй памяці застаўся стары Менск -- малы, больш утульны, асабісты, беларускі Менск. У ім я вучыўся, марыў, спадзяваўся, жыў у чаканні нечага вялікага, што мае вось сёння ці заўтра здзейсніцца... Старога Менску, майго Менску, няма. Ёсць Мінск, вялікі, прыгожы горад заходнееўрапейскага тыпу, з шырокімі вуліцамі і цудоўнымі плошчамі, але ўжо незразумелы, чужы мне... Мне неяк міжволі прыходзіла думка -- з'ехала некуды Беларусь, тая, што я ведаў, і пытаўся ў сябе самога, ці вернецца яна і калі?"

З цікавасцю чытаюцца й крытычныя нататкі М.Сяднёва пра сучасную беларускую літаратуру. Напісаныя ў стрыманай манеры, без непатрэбных рэверансаў, яны даюць выразнае ўяўленне пра пэўны твор пэўнага пісьменніка (Я.Брыль, І.Чыгрынаў, А.Кудравец, В.Хомчанка...). Праўда, часам М.Сяднёў акцэнтуе сваю ўвагу на неўласцівых аўтару адметнасцях, на перапевах з чужога голасу, як здарылася, напрыклад, з паважным беластоцкім літаратарам: "Ёсць у Яна Чыквіна і вобразы, так бы мовіць, быційна-метафізічнага складу: "Мы -- ластаўкі, што ў палёце адчайным крылышкаюць над чужароднаю ім гладдзю вод". Ад назоўніка крылы ўтвораны дзеяслоў крылышкаць -- цудоўна!"

Цудоўна, што Ян Чыквін вынаходзіць наватворы, але, думаецца, лепш за яго гэта рабіў "старшыня зямной кулі" Велімір Хлебнікаў, якому гэты наватвор і належыць: "Крылышкуя золотописьмом Тончайших жил, Кузнечик в кузов пузо уложил..." (Дарэчы, Алесь Разанаў, адчуўшы чужамоўнае гучанне ў гэтым "крылышкуя", пераклаў яго як крылцуючы).

Дзякуючы М.Сяднёву, ці не ўпершыню загучаў па-беларуску "кінжальны радок" Мікеланджэла:

**Пад цяжкасцю грахоў маіх**
**і летаў**
**стаміўся я і ў жарсці**
**злой застыг.**
**Смерць наступіць гатова**
**ў кожны міг --**
**спакутаванае сэрца**
**сведчыць мне пра гэта...**

Даследчыкі й аматары літаратуры беларускай эміграцыі знойдуць у "Масеевай кнізе" цікавы эпісталярый: лісты Н.Арсенневай, Ю.Віцьбіча, А.Салаўя, А.Адамовіча, К.Акулы. Іхняя перапіска з аўтарам адказвае на многія пытанні, утрымлівае шмат невядомых фактаў з жыцця беларускай дыяспары. Што да змешчаных у кнізе лістоў сучасных беларускіх творцаў... Ёсць у іх і звычайная чалавечая нясціпласць, напрошванне на пахвальбу ("М.Сяднёва я не забываю, клапачуся аб ім як аб сабе"), сустракаюцца й неабавязковыя сямейныя падрабязнасці, наўрад ці вартыя публікацыі: "У нас у сям'і ўсё добра. Алесь расце, яму прывезлі з Амерыкі дзве соскі, але ён прывык да сваіх, уражання амерыканскія соскі на яго асаблівага не зрабілі..."

Асобнае прыгадкі заслугоўвае й змешчанае ў кнізе "Беластоцкі сшытак" -- невялікае, напісанае ў лёгкай, нязмушанай манеры эсэ пра дзейнасць Беларускага аб'яднання на Беласточчыне, кіраўніком якога быў таленавіты паэт Хведар Ільяшэвіч. Камітэт выдаваў газету "Новая дарога". "Ільяшэвіч лічыў газету сваім творам і радаваўся, калі ейны тыраж узрастаў. Ён любіў назіраць доўгую чаргу па газету ў Беластоку. Любаваўся, калі бачыў, што па беларускую газету большая чарга, чымся па польскую. Цешыўся, як малое дзіця, калі бачыў, як зімой прыязджаюць на санёх сяляне купляць газету ў Беласток". Беларускае аб'яднанне самаахвярнай працай сваіх сяброў змагло наладзіць на Беласточчыне беларускае школьнае жыццё. Нягледзячы на складанае ваеннае становішча, высілкамі беларускіх патрыётаў была адчынена вялікая колькасць беларускіх школаў, прычым нярэдка здараліся выпадкі, калі ў іх працавалі польскія й нават расейскія выкладчыкі -- натуральна, папярэдне вывучыўшы мову. Як зазначае М.Сяднёў, "было нешта накшталт маленькага кароткага рэнесансіку". Сёння можна толькі здзіўляцца, што ў часе вайсковага рэзруху неяк знаходзілася магчымасць выдання беларускіх падручнікаў -- і немалымі накладамі. Аўтару гэтых нататкаў прыходзілася трымаць у руках "Беларускую граматыку для школ" Б.Тарашкевіча й "Беларускі правапіс" А.Лёсіка, выдадзеныя ў акупаваным Мінску ў колькасці 100 000(!) асобнікаў. Нашым чыноўнікам ад адукацыі ды гэткай руплівасці, што была ўласціва тагачасным "калабарантам"!

У "Беластоцкім сшытку" М.Сяднёў ужыў колькі трапных, псіхалагічна дакладных дэталяў, у яго заўсёды напашэве нейкі цікавы момант, што можа ажывіць і затрымаць увагу чытача: "З задніх дзвярэй у залу ўвайшлі два жаўнеры, гучна прывіталіся сваім "Жыве Беларусь!". Мы адказалі дружным "Жыве!". Гэта было надзвычайнай падзеяй. Іхняе вітанне сканула мяне да глыбіні -- упершыню я пабачыў, пачуў беларускіх жаўнераў. Забягаючы наперад, скажу -- хіба адсюль пачалася мая Беларусь, у гэтую часіну яна прайшла праз маё сэрца".

Адзін з філасофскіх абразкоў М.Сяднёва мае назву "Сум па духоўным Пантэоне". Сапраўды, Беларусь, падліхнутая стырнікамі-няўдаліцамі ў багну сацыяльнай нэндзы, мусіць сёння шукаць найперш духоўнае апірышча. Бо калі да тупкае зямлі далекавата й няма ўпэўненасці ва ўласных плывецкіх здольнасцях, дастаткова страціць апошняе -- веру, і пачынаеш патанаць. Але Бог наўрад ці жыцьме ў недабудаваным Пантэоне. Нашы папярэднікі заклалі трывалыя падмуркі й узвялі моцныя сцены. Самы час падбаць пра дах, але пакуль -- шукаем дошкі на рыштаванні...

**Міхась СКОБЛА.**

## БАРЫС САЧАНКА



**Непапраўную страту панесла беларуская літаратура. 5 ліпеня 1995 года заўчасна памёр таленавіты пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, грамадскі дзеяч Барыс Іванавіч Сачанка. У некралогу, падпісаным дзяржаўнымі дзеячамі і калегамі-пісьменнікамі, гаворыцца: "Цяжка змірыцца з думкай, што не стала выдатнага, поўнага творчых сіл і жыццёвай энергіі чалавека, які да апошняга дыхання аддаваў сябе вялікай справе нацыянальнага адраджэння, роднай літаратуры".**

**Барыс Іванавіч Сачанка нарадзіўся 15 мая 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і рабочага. У сямігадовым узросце разам з бацькамі быў вывезены ў Германію. Пасля вяртання на радзіму скончыў Хойніцкую сярэднюю школу N 1, а потым Беларускі дзяржаўны універсітэт, сумяшчаючы вучобу з работай у часопісе "Вожык". Многа гадоў працаваў у аддзеле прозы часопіса "Полымя". З 1976 па 1986 год -- сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Апошнім часам актыўна займаўся выдавецкай дзейнасцю, працуючы спачатку загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Мастацкая літаратура", а потым галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя".**

**Першае апавяданне Барыса Сачанкі з'явілася ў друку ў 1956 годзе ў часопісе "Маладосць". Яркая, самабытная проза маладога аўтара адразу звярнула на сябе ўвагу добразычлівага чытача і крытыкі. Ён пісаў пра мінулую вайну, сяльчан, пра сваё роднае Палессе таленавіта, шчыра, пранікнёна. Першыя зборнікі прозы "Дарога ішла праз лес", "Барвы ранняй восені", "Зямля маіх продкаў", "Пакуль не развіднела", "Апошнія і першыя" ўбачылі свет у 60-я гады. Яшчэ больш прыкметнымі былі наступныя творы: "Дарогі" і "Аксана" (1971), "Торкая радасць вяртання", "Вечны кругаварот" і "Родны кут" (1989), трылогія "Вялікі лес" (1980, 1982, 1984). Плённа працаваў Барыс Сачанка ў галіне дзіцячай літаратуры, сатыры і гумару, крытыкі, многа перакладаў з моў іншых народаў. Значнымі былі і яго літаратурныя даследаванні.**

**Барыс Іванавіч Сачанка назаўсёды застанецца ў нашай памяці як сумленны, чулы чалавек, старанны, нястомны працаўнік, таленавіты летапісец нашага жыцця.**

*Калектыў "Голасу Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне сям'і нябожчыка. Барыс Сачанка быў шчырым сябрам нашай газеты, не раз выступаў на яе старонках.*

*Смерць пісьменніка болем адгукнецца ў сэрцах нашых замежных землякоў. Барыс Сачанка быў адным з першых, хто зацікавіўся творчасцю і лёсам беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, артыстаў, вучоных, якія пасля другой сусветнай вайны апынуліся за межамі Беларусі. Ён дбаў пра ўз'яднанне нашай культуры, разарванай на дзве часткі палітыкамі і абставінамі, многа зрабіў для таго, каб творчасць замежных беларусаў стала вядомай на іх Бацькаўшчыне.*

## МАСТАК З ГОМЕЛЯ

**Работы гомельскага мастака Уладзіміра Сівухі вызначаюцца незвычайным стылем і напрамкам. Ім уласцівы касмічна-філасофскі пачатак, што адлюстроўвае бачанне аўтара, які вельмі захоплены космасам.**

**Дзве работы Уладзіміра Сівухі, выкананыя ў стылі касмічнай фантастыкі, знаходзяцца ў мемарыяльным музеі касманаўтыкі ў Маскве.**





**НА ЗДЫМКАХ: гомельскі мастак Уладзімір СІВУХА; рэпрадукцыя адной з работ цыкла "Час шукаць".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ПА СТАРОНКАХ ЧЫРВОНАЙ КНІГІ

# ГЭТЫ ЗАГАДКАВЫ СОМ...

Якой толькі лухты не пачуеш аб самах! Многія будуць сцвярджаць, што амаль не самі з'яўляліся ідавочцамі, як сом хапаў з паверхні вады качак і гусей, вырваў у гаспадыні ў час паласкання бялізну, а то ўцягнуў з берага ў вадзяное бяздонне буйнога барана.

Канешне, у некаторай ступені гэта самыя што ні ёсць небыліцы, але нельга сказаць, што ў іх няма долі праўды.

Такую грозную рэпутацыю гэтай рыбіне стварылі ў першую чаргу яе вельмі вялікія памеры і своеасаблівасць будовы цела. Знешні выгляд надзвычай рэзка адрознівае сома ад іншых яго сародзічаў. Цела яго вялікае, круглае, крыху плоскае знізу, у задняй частцы пераходзіць у пляскаты з бакоў хвост, да якога, акрамя хваставога, ушчыльную падыходзіць доўгі анальны плаўнік, які цягнецца амаль да сярэдзіны цела.

Агульная афарбоўка цёмная, ледзь не чорная з бурым адлівам на спіне, па баках крыху святлейшая з прымессю зеленаватых таноў і плям, а ў брушной частцы, якая пастаянна трэцца па дне вадаёма, скура жаўтаватая, а то і белая, пакрытая блакітнымі і ружовымі крапінкамі.

У спалучэнні з неймаверна вялікай галавой (ледзь не трэцяя частка ўсяго цела) і шырозным папярочным ротам, доўгімі бакавымі чэрвепадобнымі адросткамі-вусамі на паверхні сківіцы, дзвюма парамі больш кароткіх на ніжняй, а таксама маленькімі, як бы затоенымі вочкамі ўсё гэта надае сому вобраз нейкага патаемнага страшыдлы, ды яшчэ і неймавернай велічыні.

А памеры самоў сапраўды часам здзіўляюць. Найбольш буйны экземпляр быў злоўлены ў мінулым стагоддзі ў рацэ Одэр. Вага яго складала амаль 25 пудоў, г.зн. каля чатырохсот кілаграмаў.

Яшчэ адзін сом-волат водзіцца ў адным з азёраў каля сербскага гарадка Бела-Црква. Мясцовыя рыбакі запэўнівалі, што ў возеры жыве пачвара, якая і паядае рыбу, бо колькі ні пускалі ў возера малькоў, рыбы ў час аблову тут ніколі не было.

Пры правядзенні даследаванняў іхтыёлагі на самай справе ўстанавілі, што ў возеры жыве вялізная рыбіна, і папярэдне вызначылі яе вагу -- 120--200 кілаграмаў. Тады вырашылі яе злавіць. Сталі рыхтаваць сеткі, назначылі дзень вылаву. Нават выклікалі спецыяльную невадную брыгаду з Дуная.

А тут у справу ўключылася яшчэ мясцовая турыстычная арганізацыя. Спадзеючыся і сабе "збіць куш", яна "раззваніла" навокал аб мерапрыемстве, якое рыхтуецца, і да месца дзеі з'ехаліся ланцужкі аўтамашын, сабралася больш дзесятка тысяч цікаўных.

І вось закінуты сеткі. Але далейшыя падзеі хутчэй нагадвалі спаборніцтвы па перацягванню каната, чым рыбную лоўлю. Раптам у адным месцы вада забурліла, на паверхні паказаўся вялізны сом. Ён на некалькі хвілін спыніўся, потым зрабіў рэзкі рывок, і на паверхні засталіся толькі шматкі сеткі. Сом выйшаў пераможцам.

Не пралічылася і турыстычная фірма: публіка, што сабралася на відовішча, з'ела больш як 20 тысяч засмажаных на вуголлі катлет, было выпіта 30 тысяч бутэлек ахаладжаных напіткаў -- увесь гадавы фінансавы план арганізацыі быў выкананы на працягу аднаго дня.

Але такія веліканы трапляюцца вельмі рэдка. А вось двухметровыя самы вагой да 40 кілаграмаў нярэдкія і ў нас, асабліва ў Дняпры і Нёмане. Праўда, ва ўловы яны практычна не трапляюць: вельмі ўжо хітрыя і вёрткія. З найбольш буйных асобін, вылаўленых у нашыя гады, трэба адзначыць сома, злоўленага ў 1951 годзе ў рацэ Нёман, непадалёку ад горада Масты, вага рыбы была 36 кілаграмаў.

Самоў меншых памераў можна сустрэць у розных вадаёмах рэспублікі, у тым ліку і ў азёрах. Рыба гэта сустракаецца паўсюдна, хоць і ў невялікай колькасці.

Сом вядзе аселы вобраз жыцця, аддаючы перавагу месцам з глыбокімі вірамі і ціхімі ямамі, дзе пражывае амаль круглы год і можа ўсё жыццё трымацца аднаго месца. Толькі на перыяд нерасту самы пакідаюць родныя мясціны і выходзяць у месцы менш глыбокія -- 80--90 сантыметраў.

Нерасцяцца самы, калі вада ўжо добра праграецца, у маі—чэрвені. Нераст суправаджаецца характэрным бульканнем. Самка пры гэтым змайстроўвае прымітыўнае "гняздо", куды і адкладвае ад 10 да 450 тысяч ліпкіх ікрынак. Самец апладняе ікру і на працягу трох-чатырох сутак ахоўвае гэта месца. За гэты час з ікрынак вылупліваецца жвавая моладзь, якая адразу пачынае паляваць, ганяцца за дробнымі вадзянымі насякомымі.

Дарослыя самы харчуюцца рознай ежай. Гэта чарвякі, буйныя вадзяныя насякомыя, малюскі, але перавагу аддаюць рыбе і жабам.

Найбольш буйныя асобіны падчас вядуць і актыўнае паляванне: здабываюць на паверхні вады жаб, паядаюць качак і маладняк іншых вадаплаўных птушак. А іншы раз атакуюць нават сабаку, які плыве па рацэ.

Сом з поспехам выкарыстоўвае для прынады ўласныя вусы. Ён зарываецца ў пясок і ляжыць на дне, чакаючы здабычу. Варта толькі рыбам падплысці бліжэй, як ён уцягвае ў сябе даволі многа вады разам з дзесяткам дробных рыбінак. Самы таксама ахвотна падбіраюць рэшткі загінуўшай жывёлы.

Сом -- каштоўная прамысловая рыба, але цяпер у сувязі са скарачэннем колькасці патрабуе ўсямернай аховы. Ён занесены ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь і ахоўваецца законам. Лоў яго ў рэспубліцы забаронены.

**Вячаслаў СТОМА.**

# "БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ"

*"...раскрыжаваньне*
*кат завершыў...*
*аблашчыў кужаль*
*кроў Жыцьця...*
*так: Плашчаніца --*
*гэта першы*
*мой*
*Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!.."*

Узгадаліся гэтыя радкі Зьнiча, калі трапіў у цёплае і роднае святлю колераў на выставе "Беларусы ў Латвіі". Яна экспанавалася ў траўні ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, прымеркаваная да Другога кангрэса беларусістаў. Інтэлігентна-стрыманая, узнёсла-прыгожая, яна шмат што паведаміла цікаўнаму наведвальніку. Пра тое, напрыклад, як жылося беларусам у незалежнай Латвіі ў міжваенны час, чым займаліся, што чыталі, па якіх падручніках вучыліся яны ў сваіх нацыянальных школах. Хто ўпершыню, а хто ізноў пагледзеў у твар дарагому нашаму дзеячу, руплівцу беларушчыны, аднаму з бацькоў БНР -- Кастусю Езавітаву. Адышоўшы ад актыўнай палітычнай дзейнасці, эміграваўшы ў Латвію, сілы і талент ён аддаваў школьніцтву і наогул усветнай справе, не даючы згаснуць у людзях пачуццю нацыянальнае годнасці. Прыгожы й моцны, у атачэнні гімназістаў і настаўнікаў, глядзіць гэты чалавек са старых музейных фотаздымкаў. Страшна ўспомніць трагічны канец ягонага жыцця. "Беларусы! Беларусы!" -- гукаў ён у лёхах КДБ у Мінску перад расстрэлам.



Шмат хто ўпершыню даведаўся на выставе і пра дзейнасць нашага таленавітага суайчынніка -- Сяргея Сахарава, вучонага-этнографа. Экспанаты, звязаныя з дзейнасцю Яніса Райніса, прымусілі ўзгадаць, якім шчырым сябрам беларусаў быў гэты мудры чалавек, класік латышскае літаратуры. Менавіта ён дапамог арганізаваць Беларусі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі ў 20-я гады.

Узрушылі экспанаты ваеннага часу. Бірка з нумарам -- уліковая прылада дзіцячага канцлагера ў Саласпілсе. Цяпер гэта экспанат, як і фотаздымкі дзетак-беларусаў з іх прыёмнымі маці. Ахвярныя і міласэрныя, жанчыны-латышкі ратавалі маленькіх вязняў.

Былі на выставе матэрыялы і пра сучасныя рэаліі жыцця беларусаў у Латвійскай Рэспубліцы. Тут дзейнічаюць таварыствы беларускае мовы і культуры "Прамень" і "Сьвітанак", а яшчэ філія суполкі мастакоў "Маю гонар". Надалі хараства выставачнай зале жывапісныя творы прафесійных мастакоў -- Вячкі Целеша, Міхаіла Калініна, Валеры-Л.Дзіваскібы, Пётры Міравовіча. Адразу не зразумеў, адкуль точыцца святло, дзе тая крыніца. І раптам убачыў: мілыя вочы і тварык маладой дзяўчыны. Наіўна і шчыра паглядала яна з партрэта. Як нехта сказаў: "Этнаграфічна чысты тып". "Беларусачка", -- прачытаў подпіс. Мастак Пётра Міраповіч.

У дзень адкрыцця выставы ў музеі адбыўся круглы стол "Беларуска-латышскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні". Старшынствавалі на ім доктар Мірдза Абала (Латвія), доктар, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і сацыялогіі Акадэміі навук Латвіі Інга Апіня і паэт Сяргей Панізьнік. У сумоўі ўзялі ўдзел консул Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску Арманд Крузэ, кандыдат навук Людміла Дучыц, рэдактар газеты "Прамень" Лявон Шакавец, іншыя дзеячы навукі і культуры Беларусі і Латвіі. Паводле слоў спадарыні Інгі Апіні, цяпер у Латвіі жыве каля 120 тысяч беларусаў, прычым у Латгаліі гэта не мігранты, а спрадвечныя жыхары. Апошнім часам латвійскі ўрад прыняў законы, якія спрыяюць нацыянальным меншасцям. Трэба толькі хацець і ўмець карыстацца гэтымі законамі. Рыхтуючыся стаць грамадзянамі Латвіі, украінцы, рускія, палякі, беларусы маюць духоўны абавязак і магчымасць шанаваць мову і звычай сваіх продкаў. Але ці хочуць беларусы пачувацца беларусамі? Пытанне актуальнае не толькі для маіх суайчыннікаў у Латвіі.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**Здымкі зроблены Віктарам СТАВЕРАМ у выставачнай зале.**



## АШЧАДНЫ БАНК — МУЗАМ

Ашчадны банк Рэспублікі Беларусь у чэрвені выдзеліў 18 мільёнаў рублёў на падтрымку творчых саюзаў і арганізацый.

Саюзу мастакоў аказана дапамога ў пераабсталяванні дома-майстэрні А.Бембеля пад музей сучаснай беларускай скульптуры, Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею -- у аднаўленні музея сядзібы І.Рэпіна, Акадэміі навук -- у выданні "Кароткага нарыса гісторыі Беларусі", тэатру дзіцячай музычнай камедыі "Казка" -- у пастаноўцы новага спектакля "Мілавіца".

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 2436. Падпісана да друку 10. 7.1995 г.